BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10 (58) Лістапад 1998 November Год выд. 6.

## СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ




У восень 1920 году, беларусы на Случчыне паднялі збройнае паўстаньне супроць бальшавіцкай акупацыі з мэтаю ачысьціць Случчыну і ўсю Беларусь ад бальшавіцка-расейскае ўлады і вярнуць на Беларусь вольнасьць і незалежнасьць, што было абвешчана актам 25-га Сакавіка 1918 году ў Менску.

Усё насельніцтва Случчыны дружна падтрымоўвала паўстанцаў, тымболей, што апрача бальшавіцкае пагрозы, з другога боку, мелася і польская пагроза, бо палякі з бальшавікамі зьбіраліся закончыць вайну на беларускіх землях і падзяліць Беларусь на дзьве часткі.

Ядром арганізацыі беларускіх вайсковых аддзелаў сталася народная міліцыя, якая хутка з 500 чалавек разраслася да 10.000 паўстанцаў. На скорую руку арганізаваліся два найбольш выдатныя палкі, — Слуцкі, пад камандай палкоўніка Гаўрыловіча і Грозаўскі, пад камандай капітана Семянюка. Распачалося крывавае, няроўнае змаганьне. Баі разгарнуліся каля вёсак: Быстрыцы, Верабейцаў, Васільчыцаў, Чарнадубава, Васілішак, Дашкава, Мацкевічаў; каля Капыля, Цімкавічаў, Вызны і іншых. Слаба азброеныя паўстанцы адносілі нават перамогі, але не маглі паканаць колькасна пераважаючых і азброеных да зубоў бальшавіцкіх палкоў. Пасьля жорсткіх баёў паўстанцы былі змушаны адступіць да ракі Лань. Адсюль яшчэ доўга яны рабілі выпады супроць ворага, але абараніць Беларусі яны не змаглі. 28-га сьнежня 1920 году яны перайшлі польскую мяжу і былі інтэрнаваныя ў Сіняўцы. Частка паўстанцаў аднак зброі не здала, а вярнуўшыся назад у слуцкія лясы, на працягу амаль 4-х гадоў змагаліся з бальшавікамі...

Яны дзеялі ня толькі на тэрыторыі савецкае Беларусі, але таксама і на тэрыторыі Беларусі занятай Польшчай.

Слуцкае паўстаньне, дарма што не асягнула пастаўленае мэты, зьяўляецца выразам здэцыдаванае волі беларускага народу да поўнае палітычнае незалежнасьці і доказам палітычнай сьпеласьці беларускай нацыі.

Таксама як раней бунты нашага казацтва, паўстаньне ў Гомелі, паўстаньне на чале з Кастусём Каліноўскім, змаганьне беларускага сялянства з акупантам на працягу амаль усяго часу савецка-маскоўскае няволі, барацьба беларускага жаўнера падчас апошняй вайны, Слуцкае паўстаньне залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю змаганьня за незалежнасьць Беларусі. Пралітая кроў за нацыянальна-палітычныя ідэалы беларускага народу ёсьць тэй пуцяводнай зоркай, якая сяньняшнім і наступным беларускім пакаленьням паказвае адзіны і ўласьцівы іх нацыянальны шлях, — шлях свабоды і волі.

Усе гэтыя факты павінны ўзяць пад развагу тыя, хто сяньня, вядучы страўсавую палітыку, падобна апошняму, заплюшчвае вочы на запраўдныя нацыянальна-палітычныя імкненьні беларускага народу і арыентуецца на музэальную адзінанедзялімскую канцэпцыю, стараючыся павярнуць назад ход гісторыі.

Успамінаючы ўгодкі Слуцкага паўстаньня, мы з цэлай упэўненасьцю цьвердзім, што беларускі народ астанецца верным тым ідэялам, за якія, у няроўным змаганьні, на аўтар Бацькаўшчыны склалі сваё жыцьцё случчакі. Ніякія паўмеры ў форме фэдэрацыяў ці іншых палітычных камбінацыяў не задаволяць беларускага народу, смела і ўпэўнена стаўшага на шлях поўнага нацыянальна-палітычнага адраджэньня.

Сьвядомыя сваіх заданьняў і адказнасьці перад народам, беларуская эміграцыя будзе пратэставаць усюды там, дзе няпрошаныя "апякуны" ці нялічныя беларускія апартуністы будуць прабаваць вырашыць лёс Беларусі і беларускага народу без удзелу сапраўдных прадстаўнікоў.

Слава беларускім паўстанцам!

В. Дуб

"Беларуская трыбуна"



**Спадарыня Лёля Міхалюк** – знаная грамадзка-культурная і рэлігійная дзеячка, старшыня Згуртаваньня Беларусаў ў Вяліка-Брытаніі (Англіі), працаўніца на ніве беларускага адраджэньня ды вялікая патрыётка свайго народу.

Дарагая Лёля! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



## Не ў грошах шчасце...

**На мінулым тыдні курс даляра ЗША ў дачыненні да беларускага рубля ўзрос на ўсіх сегментах валютнага рынку.**

Найбольш прыкметна павялічыўся кошт даляра да безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку — на 28,2 працэнта (са 180.000 — 210.000 да 230.000 — 270.000 рублёў). На "чорным" рынку наяўнай валюты ў Менску курс даляра ўзрос на 12,7 працэнта (са 100.000 — 105.000 да 113.000 — 118.000 рублёў).

У абменных пунктах камерцыйных банкаў краіны ён павялічыўся на 1,5 працэнта (з 72.000/72.500 — 73.000 да 73.000/73.800 —74.000 рублёў). На таргах менскай Міжбанкаўскай валютнай біржы амерыканскі даляр узрос за тыдзень у цане на 0,9 працэнта (з 53.000 да 53.500 рублёў), нямецкая марка — на 2,2 працэнта (з 31.750 да 32.450 рублёў). Расійскі рубель патаннеў на 2,9 працэнта (з 3.400 да 3.300 рублёў). Кошт украінскай грыўны чацвёрты тыдзень запар застаецца на ўзроўні 27.500 рублёў.

Напрыканцы мінулага тыдня пазабіржавы курс даляра перавысіў біржавы ў 4,7 раза (тыднем раней — у 3,7 раза), а розніца паміж "чорным" і банкаўскім курсамі склала 56,7 працэнта (тыднем раней — 41,1 працэнта). Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам РФ, узрос за тыдзень на 0,6 працэнта (з 15,8827 да 15,9706 рубля).








*ПАМЯЦЬ*
пра
Слуцкі
збройны
чын
заўсёды
будзе
з
намі!!!

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Shadow cabinet says Belarus in deep crisis

A deep and long-running crisis awaits the Belarusian economy, reads a statement about the economic situation in Belarus adopted by the National Executive Committee (NEC), the Belarusian opposition's shadow cabinet. Those present agreed that the Belarusian economy suffers from hyperinflation caused by the government's amateurish economic and monetary policies, self-isolation, and refusal to accept assistance from international financial organizations. The NEC leaders believe that the present government is unable to pursue internal and foreign policies in the interests of the Belarusian people.

## Prime minister speaks on NATO's expansion

"NATO's eastward expansion is a historic mistake, it does not give people security," Belarusian Prime Minister Sergei Ling said on October 2 at a meeting of municipal leaders from sister towns in Belarus and Russia, which is currently underway in Gomel. Ling recalled that Belarus had fulfilled disarmament commitments under international treaties ahead of schedule. He said that before the removal of nuclear weapons from Belarus the country's potential was estimated at $4-5 billion. The country also dismantled 3,000 tanks and 150 planes and helicopters. Ling said that Belarus could have received $500,000 for each tank, whereas metal scrap from one tank costs $45-48,000.

## Popular Front blasts 'new twist in imperial initiatives'

The Belarusian Popular Front (BPF) considers a recent visit by Russian Prime Minsiter Yevgeny Primakov to be "a new twist in the imperial initiatives of the Russian political elite." "The independence of Belarus, the future and prosperity of our people are now under threat. The Russian colony expansion in the center of Europe creates a threatening and destabilizing factor for the whole continent," the BPF said.

## United Civil Party opposes integration with Russia

The Political Council of the United Civil Party (UCP) has said that it opposes "any scenarios of deeper integration with Russia" and called on the democratically-mended public in Belarus to join protests that are being organized by trade unions. The UCP comes out against any elections for the parliament of Belarus and Russia and any referendum on the issue because "the country has no democracy and a legitimate parliament to ratify international agreements."

## Russian crisis causes Ford Union factory to stop

The financial crisis in Russia has caused the Belarusian-U.S. Ford Union factory to suspend production. The factory is located near Minsk and assembles Ford Escorts and Ford Transits chiefly for the Russian market. Ford Union spokesman Dmitry Mokshin said that production was stopped about a month ago because Russian dealers lacked hard currency for buying cars. According to Mokshin, "to give people a job and a 100% pay," the Ford Union administration has sent some employees to help local farms with the harvest.

# Kiev is negative on joining Belarusian - Russian Union

By Alexander PATUTIN

Belarusian Prime Minister Sergei Ling visited Ukraine September 28-29, to discuss current problems in mutual relations and joint efforts to fight the consequences of the Russian crisis. The visit coincided with a speech by Russian State Duma speaker Guennady Seleznev in the Ukrainian parliament, proposing that Ukraine join the Belarusian-Russian Union. "A lot of problems would disappear if we formed a union of the three Slav states - Ukraine, Russia and Belarus," said the Russian politician. This initiative, however, was confronted with an outburst of indignation among Ukrainian nationalists, which took its toll on the Belarusian-Ukrainian negotiations.

Ukrainian President Leonid Kuchma also vehemently opposed the idea of an alliance of Belarus, Russia, and Ukraine modeled after the Soviet Union. Commenting on Seleznev's proposal, Kuchma said that the existing "union of two" - Russia and Belarus - "has brought them no good." The Customs Union, stated the Ukrainian leader, has proven absolutely inefficient.

The subject was also brought up in the talks between the Belarusian premier and senior Ukrainian officials, who remained rather reserved. Verkhovnaya Rada (the Ukrainian parliament) speaker Alexander Tkachenko admitted that only by "joint work" can the economies of "Russia, as well as Belarus and Ukraine" be snapped out of their doldrums, never venturing within earshot of actually suggesting such an alliance. Though he did speak of the need for "further" economic cooperation with Minsk, Ukrainian Prime Minister Valery Pustovoitenko mainly preferred to sidestep political issues.

A 20% reduction in mutual trade between Belarus and Ukraine was named as a top-priority issue on the agenda. Even the most optimistic projections put it at $1 billion, as against $1.4 billion last year.

To reverse the negative trend, the parties have agreed to speed up the preparation of an intergovernmental Ukrainian-Belarusian long-term cooperation program, to be launched early next year. Among other things, the program should settle all the discord over price setting, VAT and transportation tariffs, raising trade turnover to $2.1 billion by 1999.

A common payment system has been set high on the short-term agenda. Toward this end, Ukrainian Premier Pustovoitenko suggested that an international bank consortium be set up, to include Prominvestbank of Ukraine, Promstroibank of Belarus, and a Russian bank.

The parties identified several reasons which brought about the current trade decline: failure to implement previous trade promotion agreements and a decision by the two governments to cut barter operations.

Both Minsk and Kiev believe that barter, clearing transactions, and manufacturing cooperation should now propel the exchange of goods between Belarus and Ukraine. The two heads of government have reportedly signed a protocol on lifting barter restrictions, expanding manufacturing cooperation, and simplifying border clearing.

The protocol also calls for spurring financing for a joint harvester Polesie-250 assembling project, proposing ways to increase supplies of BelAZ trucks to Ukraine and studying Belarus' participation in the manufacturing of electric and diesel locomotives.

Investment initiatives were also addressed. Ukrainian Foreign Economic and Trade Minister Sergei Osyka voiced his country's intention to set up joint ventures with the Belarusian farming machinery producer Gomselmash and dump truck manufacturer BelAZ.

Aside from this, a series of other documents were signed during the visit: an agreement on cooperation between finance ministries, a protocol on mutual assistance between customs offices, and a number of interdepartmental protocols.

However, the talks in Kiev were not as smooth as the officials wanted them to be. Belarus failed to reclaim $17 million in bad debts that Ukraine has owed since 1992 (the parties agreed to "look for mutually acceptable options"). Kiev, in turn, faulted Minsk for protracting the ratification of an agreement on the Belarusian-Ukrainian border (Ukrainian President Kuchma reminded Belarusian Premier Ling of this during their meeting).

All this issues - and several others - will make up an extensive agenda for the two presidents' summit, scheduled for this October.

## Амэрыка не дала візаў двум менскім "лукашэнкаўцам"

Амэрыка не пусьціла ў Нью-Ёрк А. Козыра і М. Чаргінца. Яны зьбіраліся прыбыць у ЗША на паседжаньне міжпарлямэнтарнае асамблеі. Сп. Чыргінец падазрае, што віза была яму адмоўлена за тое, што ён наведаў Югаславію ў спэцыяльнай "беларускай" місыі. Абодва "таварышчы" — ведамыя саўкі-бальшавікі.

## Беларуская апазыцыя за прэзыдэнцкія выбары ў 1999 г.

Генадзь Карпенка, лідэр апазыцыі і дэпутат папярэдняга парлямэнту, заявіў прэзыдэнту А. Лукашэнку, што прэзыдэнцкія выбары павінны адбыцца, як кажа Канстытуцыя 1994 г., ужо ў наступным годзе. Зфальшаваны рэфэрэндум у 1996 г. правёў новую канстытуцыю, якая прадоўжыла прэзыдэнцкі тэрмін Лукашэнкі да 2001 году. Г. Карпенка прапануе падпісаць дамоўленасьць між апазыцыяй і цяперашнім урадам, каб агульнымі намаганьнямі старацца вывесьці Беларусь з палітычнага і эканамічнага крызісу. Ён таксама дамагаецца, каб усе палітычныя партыі і блёкі мелі неагранічаны доступ да радыё і TV.

Самае апошняе апытаньне 1.500 беларусаў паказала, што 35.9% хочуць выбараў у наступным годзе, 21.6% хочуць выбараў у 2001. І 31.5% думаюць, што выбары зусім непатрэбныя, бо няма лепшага кандыдата, як Лукашэнка.

**Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"! Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...**

# Балючая памяць і сённяя пячэ

Народная Воля

Мяне вельмі турбуе, не дае спакою тое, што значная частка нашага грамадства гатова змірыцца з дыктатурай, не разумее дэмакратычных каштоўнасцей. Божа мой! Колькі бед і пакут ад таталітарызму перанёс мой народ! Сотні тысяч скалечаных лёсаў, неадбыўшыхся жыццяў, знявечаных душ! І калі я чую: "Нам нужен железный порядок", калі бачу старых, з нейкай незразумелай раз'юшанасцю ўздымаючых партрэты Сталіна над сваімі сівымі галовамі, мне становіцца балюча, горка і да слёз сорамна перад незлічонымі ахвярамі генацыду, крыўдна за нашу Радзіму.

Не буду далёка хадзіць за прыкладамі. Спашлюся на журботную гісторыю маіх дзядоў, бацькоў, сям'і.

Мой дзядуля (бацька маёй маці) быў родам са спрадвечных беларускіх сялян. У 1914 годзе, калі пачалася першая сусветная вайна, ён быў адарваны ад зямлі і ў расійскай арміі ваяваў за інтарэсы вялікай імперыі аж да рэвалюцыі 1917 года.

Дзед горача падтрымаў бальшавікоў, бо яны гучна абвясцілі: "Зямлю — сялянам!" У грамадзянскую ён змагаўся ў чырвоным партызанскім атрадзе з нямецкімі акупантамі. Але калі пайшла бойка "брат на брата", ён вярнуўся ў сваю вёску да зямлі. Ягоным рукам абрыдла вінтоўка — яны знудзіліся па прыладах хлебаробскай працы. Дзед разам з жонкай шчыравалі на сваім надзеле і падворку, як кажуць, ад світанку да світанку. І зажылі не бедна: усё мелі сваё — і хлеб, і да хлеба.

Толькі нядоўга гэта было: пачалася калектывізацыя. Дзед, натуральна, успрацівіўся: "Чаму я павінен аддаць усё нажытае цяжкай працай, потам і крывёю? Каму я гэта аддаю? Чаму я павінен уступаць у калгас разам з лайдакамі і п'яніцамі, якія нічога не прыдбалі і не нясуць у агульны "кацёл"?"

І ён адмовіўся ад калгаса. Што адбылося з гэтага, вы, думаю, ужо здагадаліся. Так, дзядуля быў аб'яўлены "врагом трудового народа". У 1934 годзе яго арыштавалі, канфіскавалі ўсё: і дом, і каня, і карову, і няхітрую сялянскую мэблю, і нават посуд. Затым ссылка з усёй сям'ёй — жонкай і трыма дзеткамі (мая мама была сярод іх старэйшай).

Шматлікія эшалоны цягнуліся тады з захаду на ўсход вялізнай краіны, куды ў вагонах-"цялятніках" перавозіліся сотні, тысячы адарваных ад роднай глебы беларускіх сем'яў. Калі ўсе яны "враги народа", то скажыце мне, непаважаныя сённяшнія сталіністы: **хто ж тады — народ?**

Я ўспамінаю аповеды дзеда, бабулі і мамы, як іх у глухой тайзе зімой "высыпалі" з вагонаў у снегавыя сумёты. Дзеду спатрэбіўся вопыт вайны — ён капаў зямлянкі, ратаваў сям'ю. Побач людзі (нашыя браткі-беларусы) паміралі "касякамі", асабліва дзеці, ад сцюжы, ад голаду. Ссыльным выдалі ручныя пілы — валіць векавую тайгу. Муку прывозілі адзін раз на месяц. Некаторыя не вытрымлівалі, хапалі ясе жменямі і елі сырую, дабаўляючы молатую сасновую кару. Былі выпадкі, калі ў малых згаладалых дзяцей, якія накідваліся на гэтую мешаніну, разрываліся страўнікі. І гэта, непаважаныя сталіністы, ёсць, па-вашаму, "железный порядок"?

...Там, у далёкай ссылцы, нарадзіліся я, мае браты і сястра. Я рос у расійскай асяродку. Бацька мой па нацыянальнасці — рускі.

І я ў пашпарце запісаны рускім. Але вось што цікава: дзякуючы дзядулю, бабулі, маме, дзядзьку і цётці, я пачуваў сябе і застаўся беларусам. Дома ў сям'і размаўлялі заўсёды на добрай беларускай мове. А як свяціліся ва ўсіх вочы, калі гаворка заходзіла пра Радзіму, пра Беларусь! Мне, малому, ніколі яшчэ нябачаная, яна снілася ў казачнай красе: у яблыневай квецені, якую я таксама ніколі не бачыў, у россыпах жоўтага рачнога пяску. І мроіўся Днепр — бязмежны, бязмежны...

Няма ўжо нікога з тых родных, дарагіх, але ўдзячнасць да іх за прывітую мне любоў да Бацькаўшчыны жыве ў маім сэрцы.

...Толькі пасля рэабілітацыі, ужо ў часы "хрушчоўскай адлігі", сям'я змагла вярнуцца на Радзіму. Пасля службы ў арміі прыехаў на Беларусь і я. Упершыню — на сваю сапраўдную, аднятую ў мяне сталіністамі Радзіму.

І зноў, і зноў я спрабую зразумець: адкуль у людзей гэтая дзіўная настальгія па страшных часах? Нават калі адкінуць крывавыя рэпрэсіі, варта адказаць хаця б сабе: хіба ж асноўная маса людзей жыла тады як мае быць? Не, гэта былі жабрацкія часы. Многія жылі ў бараках ці ў адным пакойчыку на некалькі сем'яў, у камуналках-"клапятніках".

У думках пераношуся ўжо ў 1964 год. Кастрычнік. Адхіленне ад улады М.С.Хрушчова. Вакол злурадныя і задаволеныя абывацелі: "Так ему и надо, лысому! Довел, понимаешь ли, страну до очередей!" Як быццам пры Сталіне іх не было! Не было яшчэ большага мардавання і голаду!

У адрозненне ад многіх я цяжка перажываў гэтую падзею. Я верыў Хрушчову. Верыў, што ў 1980 годзе буду жыць пры камунізме. Я не мог яму не верыць! Менавіта ён, Мікіта Сяргеевіч, адкрыта асудзіў масавыя рэпрэсіі, менавіта ён рэабілітаваў незаслужана рэпрэсіраваных людзей, у тым ліку і маю сям'ю. Пры ім стала лягчэй дыхаць. З'явіліся, хоць і кволыя, зародкі дэмакратыі... Цяпер, у сталым узросце, я не перабольшваю значнасць гэтай фігуры, многае разумею інакш. Але не бачыць прагрэсу ў палітычнай сітуацыі таго часу было б несправядліва.

...На блізкай памяці — 1991 год. Падобная сітуацыя. Адхіленне ад улады М.С.Гарбачова. І зноў той жа самы абывацель, зларадны і задаволены: "Так ему и надо, этому болтуну! Выстроил, понимаешь ли, очереди за водкой!" Але ж ці не той самы Гарбачоў падняў нас з каленяў? Менавіта ён даў магчымасць для дэмакратызацыі грамадства! У выніку і ў рэшце рэшт Беларусь атрымала незалежнасць, аб чым мы раней і марыць баяліся!

Але значная частка насельніцтва ўздыхае па "залатых" брэжнеўскіх часах. Не хоча задумацца, адкуль браўся адносны дабрабыт той пары. Не хоча асэнсаваць, што вялікая імперыя бяздарна праядала і прапівала свае прыродныя багацці — нафту, газ, золата. Ці ж гэта магло працягвацца вечна?

Бацька маёй жонкі прайшоў фінскую вайну, з першых дзён Вялікай Айчыннай ваяваў на фронце. Але меў няшчасце параненым трапіць у палон. Пасля вызвалення савецкімі войскамі ў 1945 годзе ён не вярнуўся дахаты: сталінскаму рэжыму патрэбны былі новыя ахвяры. Яго заклеймілі "предателем" (як жа — быў у палоне!) і адправілі на катаржныя работы ў шахты. Вось ужо сапраўды — з агню ды ў полымя! Там, у далечыні ад Беларусі і сям'і, ён у 49 гадоў памёр ад хваробы лёгкіх.

Гады чатыры таму я з жонкай і сынам, з нашымі даўнімі і добрымі польскімі сябрамі наведалі былы фашысцкі канцлагер, Майданек пад Люблінам. Усё, што мы ўбачылі ў сучасным мемарыяльным комплексе, вялізным музеі Памяці, цяжка перадаць словамі: прылады катавання, газавыя камеры, смяротныя "лазні", шыбеніцы, печы крэматорыя... Але якім жа моцным было нашае здзіўленне, калі на адной са шматлікіх музейных фатаграфій мы ўбачылі жончынага бацьку, дзядулю майго сына! Ён быў сфатаграфаваны ў калоне савецкіх ваеннапалонных, апынуўшыся на пярэднім плане...

Жонка адразу спазнала свайго бацьку, бо ў нас былі ягоныя фатаграфіі ў ваеннай форме. З яе вачэй пакаціліся слёзы. Вось якой атрымалася яе сустрэча з татам, мая — з цесцем, а нашага сына — з дзядулем праз амаль паўстагоддзя! Ягонае прозвішча мы знайшлі ў музейных спісах ваеннапалонных. Значыць, памылкі не было.

А цяпер адкажыце мне, непаважаныя сталіністы: чым істотна адрознівалася фашысцкае "пекла" ад камуністычнага "раю"? Толькі не спявайце песень пра "социализм с человеческим лицом". Фальшывыя гэта песні. Весь свет бачыў гэтае "лицо" ў розных варыянтах. А выскал у іх адзін.

...Звяртаюся да сённяшняй моладзі, прашу: дзеці, паважайце старэйшых, прайшоўшых цяжкімі шляхамі і не згубіўшых сваю душу, чалавечнасць, чэснасць. Але сярод сталых людзей ёсць і людзі "ўчарашняга дня". У значнай ступені менавіта яны ў 1994 годзе вызначылі на прэзідэнцкіх выбарах той "порядок", расхлёбвацца з якім давядзецца вам. Гэтых людзей лёс не закрануў рэпрэсіямі, і яны часам "не ведают, что творят". Будзьце цярпімыя да іх, а сапраўдных ветэранаў і патрыётаў глыбока шануйце. З кожным годам іх усё менш і менш. А безліч найлепшых сыноў Бацькаўшчыны даўно раскінулі свае святыя костачкі на ссылках, катаргах, Салаўках, Курапатах, фашысцкіх і сталінскіх канцлагерах, расстрэльных ірвах.... "Да минует вас чаша сия!".

**Валерый ВАСІЛЬЕЎ настаўнік.**
*Брэст.*

## РАСІЙСКІЯ ЛЕВЫЯ РАДЫКАЛЫ Ў ВЫПАДКУ ПРЫХОДУ ДА ЎЛАДЫ НЕ МАЮЦЬ НАМЕРУ НЕСЦІ АДКАЗНАСЦЬ ЗА ЗНЕШНІЯ ДАЎГІ

**Прадстаўнікі левардыкальных апазіцыйных сіл заяўляюць, што ў выпадку прыходу да ўлады яны не маюць намеру несці адказнасць за крэдыты, атрымліваемыя за мяжой цяперашнім урадам Расіі.**

Лідэр руху «Працоўная Расія» Віктар Ампілаў заявіў у чацвер «Інтэрфаксу», што «новыя крэдыты МВФ выдзеліў для выратавання рэжыму Ельцына ад народнай лютасці». «Вытворчасць ад гэтых грошай у нас усё роўна не наладзіцца, а ў народа ад іх не дабавіцца нічога, а значыцца, плаціць па гэтых даўгах народ не павінен», — лічыць В. Ампілаў.

Са свайго боку лідэр Расійскай камуністычнай рабочай партыі Віктар Цюлькін заўважыў, што мільярды МВФ «усё роўна асядуць у кішэнях тых, хто прывык цягаць у авосьцы па 500 тысяч долараў».

Лідэр Саюза кампартый (СКП—КПСС) Алег Шэнін заявіў «ІФ», што, вырашаючы, ці вяртаць знешнія даўгі, «перш за ўсё трэба будзе ўважліва паглядзець, што гэта за даўгі, хто іх узяў і на што патраціў».

Як заявіў гэтымі днямі лідэр Руху ў падтрымку арміі, старшыня думскага камітэта па бяспецы Віктар Ілюхін, шматмільярдная пазыка МВФ «выходзіць далёка за рамкі зацвярджанай Дзярждумай праграмы дзяржаўных знешніх пазык».

В. Ілюхін падкрэсліў, што крэдыт «будзе разглядацца не ў якасці дзяржаўнага доўгу, а як асабістая пазыка прыватнай асобе па прозвішчу Чубайс».

**ЗВЯЗДА** Інтэрфакс.



Падаецца да ведама наш e-mail address: **bdigest@iserv.net**

ДЫЯСПАРА

# Пад знакам "Руні"

**У ліпені надарылася магчымасць пабываць у Вільні. Амаль два гады не хадзіла па віленскіх вуліцах, дзе раней пачувала сябе камфортна і ўтульна. З усіх гарадоў найбольш люблю менавіта Вільню і падобныя да яе Прагу, Беласток, Гародню. Асяроддзе гэтых местаў асабліва блізкае майму заходнебеларускаму характару. Адчуваю, што менавіта гэта і адпавядае нашаму глыбіннаму беларускаму разуменню горада для людзей. Вось такімі і павінны быць беларускія гарады. Шырыня, размах, велічэзнасць будынкаў не ствараюць камфортнасці для беларускай душы, што больш схільная да абмежаванай прасторы, у якой жывуць усе еўрапейскія народы. Нягледзячы ні на якія ўплывы з усходу, беларусы ўсё ж захавалі ў сабе прыхільнасць да цеплыні, утульнасці, высокай эстэтычнасці ў адносінах да асяроддзя свайго пражывання. Найважней для нас, што ў Вільні захавалася і тая глыбінная беларускасць, якой ужо не сустрэнеш у іншых местах. Носьбіты яе не толькі старажытныя муры, але і людзі. Віленскія беларусы заўсёды мелі сваю адметнасць. Менавіта там мы бачылі заглыбленую ў гісторыю беларускую культуру, якая вызначалася еўрапейскім узроўнем, нейкай асабістай высакароднасцю, вытанчанасцю.**

**Але час няўмольны. Пацяху адзін за адным адыходзяць у лепшы свет віленчукі-беларусы старэйшага пакалення, і мы страчваем з імі нешта вельмі істотнае. Цяжка сёння ўявіць Вільню без Пятра Сергіевіча, Зоські Верас, братоў Луцкевічаў і інш. Цешыць тое, што на змену ім прыходзяць маладзейшыя, што сёння ёсць каму прадоўжыць беларускую справу.**

28 ліпеня 1998 г. споўнілася гадавіна з дня смерці Лявона Луцкевіча, і мы, удзельнікі 2-га з'езда беларусаў краін Балтыі, наведалі магілкі Роса. Успомнілася, як сам "дзядзька Лявон" упершыню прывёў мяне сюды, дзе назаўсёды супачылі многія выдатныя сыны Беларусі. Ніхто не мог так захапляюча распавесці пра дарагую Вільню, як сп. Лявон і яго брат Юрка. Яны нарадзіліся, жылі і памерлі абодва ў гэтым горадзе. Іх знакамітым продкам — бацьку Антону, дзядзьку Івану Луцкевічам — на Росах пастаўлены прыгожы помнік, на адкрыцці якога мне калісьці пашчасціла быць. Побач пахаваны і сам Лявон.

Многа нам давялося папрацаваць з Лявонам Луцкевічам і яго жонкаю Галінаю дзеля пошуку і захавання беларускіх архіваў у Вільні ды па розных іншых беларускіх справах. Дзядзька Лявон марыў выдаць напісаную ім кніжку пра беларускія мясціны ў Вільні. Тыя з нас, хто бываў у Луцкевічаў, стараліся дапамагчы яму зрабіць гэта ў Беларусі, але нічога не атрымалася. Так і застаўся ў архіве машынапіс кніжкі, які прывезла для таго, каб паспрабаваць яе выдаць у Мінску. Але так і не пабачыў Лявон Луцкевіч сваю кніжку надрукаванай, і мы не можам сабе гэтага дараваць. Толькі праз год пасля яго смерці я атрымала ад спадара Хведара Нюнькі выданне, якое зрабілі самі віленскія беларусы. Выдавецтва "Рунь" Таварыства беларускай культуры надрукавала сёлета "Вандроўкі па Вільні" Лявона Луцкевіча. Фінансавую падтрымку аказалі Яніна Кахановская, Алена Сіўко-Парасонене і Галіна Война і Фундацыя П. Крэчэўскага.

Кніжка пачынаецца невялікай прадмоваю аўтара, які дакладна вызначыў сутнасць сваёй шматгадовай працы: "Аўтар не патрабуе, каб ягоная праца разглядалася, як навуковае даследаванне ці ўсістэматызаваны турыстычны даведнік. Гэта позірк старога беларуса-віленчука, карэннага жыхара Вільні на бясконца любы яму горад".

Вядомы віленскі беларускі мастак Алег Аблажэй напісаў сваю прадмову да кнігі, у самой назве якой "Залатыя кроплі" адчуваецца вялікая павага да аўтара кнігі. Залатыя кроплі — гэта яго сапраўды найдаражэйшыя здабыткі, што на працягу свайго жыцця назбіраў Лявон Луцкевіч для беларусаў у гістарычным мінулым і сучаснасці Вільні. Пра Вільню напісана многа кніг, але пра яе, як беларускую духоўную Мекку, няма падобнай. Усе, хто меў у розныя часы ўладу над горадам, хацелі, каб беларускі след тут зусім сцёрся. "Затое напісанае застаецца назаўсёды. І гэтая сціплая кніжка будзе доўга служыць любому, хто захоча самастойна павандраваць па слаўным горадзе Вільні ды пабачыць, якое месца ў яе гісторыі займаем мы, беларусы", — слушна заключае аўтар. Наклад кніжкі 1000 асобнікаў. Думаю, што жадаючых яе мець акажацца значна больш.

Цудоўна ўкладаецца ў адзін камплект з кнігаю Лявона Луцкевіча і яшчэ адна выдадзеная зараз у Вільні, тым жа выдавецтвам "Рунь", кніжка ўспамінаў Марыяна Пецюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў". У якасці прадмовы да яе ўзяты артыкул Лявона Луцкевіча з серыі "Партрэты віленчукоў". Дарэчы, менавіта гэтая кніжка і стала першым выданнем з серыі кніг, запланаваных выдавецтвам "Рунь" да друку.

Марыян Пецюкевіч належыць да шэрагу знакамітых заходнебеларускіх адраджэнскіх дзеячаў. Працаваў у галіне асветы, этнаграфіі. Лёс яго быў звязаны з дзейнасцю беларускіх асяродкаў у Вільні. Ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, працаваў у розных беларускіх арганізацыях, быў адказным рэдактарам часопіса "Шлях моладзі". Рэпрэсаваны ў пасляваенны час. Апошні перыяд свайго жыцця правёў у Польшчы і памёр там, у Торуні.

Пра ўсе пройдзеныя аўтарам жыццёвыя дарогі і распавядае кніга. Галоўны яе змест — спрадвечнае імкненне беларусаў да здабычы зачараваных скарбаў асветы і заўсёдныя перашкоды на гэтым шляху з боку тых, што не хацелі, каб беларус пачуваў сябе чалавекам. Перад намі паўстае вобраз мужнага чалавека, адданага сваёй Бацькаўшчыне, змагара і інтэлігента. Моц духу, настойлівасць, працавітасць, пачуццё годнасці дапамаглі аўтару адолець многія цяжкасці, загартаваць волю. Але жорсткасць рэальнага жыцця здолела спыніць палёт высокіх думак і надзей, не даць рэалізавацца яго марам аб жыцці на свабоднай Бацькаўшчыне. Драма аўтара падобна на такі ж драматычны, а ў многіх выпадках і трагічны лёс беларускіх адраджэнцаў. Кніга прымушае нас задумацца аб тым, што павінны рабіць мы самі, каб лёс краіны быў іншым і каб нашым нашчадкам не давялося б з такімі цяжкасцямі выходзіць у свет да цывілізаванага жыцця.

Кніга выдадзена накладам таксама ў 1000 асобнікаў, на сродкі дачкі Марыяна Пецюкевіча — Марылі. Яна ж надрукавала тут і сваё "Слова пра бацьку". Пасляслоўе зрабіў Алег Мінкін. Ён падкрэсліў адну важную думку, што хоць аўтар успамінаў і прайшоў вельмі цяжкі шлях да скарбаў асветы і праз гэта вельмі многа пацярпеў у сваім жыцці, але ён застаўся перакананым у правільнасці абранага ім жыццёвага накірунку. У гэтай выснове — галоўная каштоўнасць выдання.

Будзем спадзявацца, што распачатая выдавецтвам "Рунь" і Таварыствам беларускай культуры серыя кніг з партрэтамі беларусаў-віленчукоў будзе працягвацца і папаўняць шырокую плынь літаратуры па гісторыі беларускай нацыі, што выдаецца адраджэнскім рухам як у Беларусі, так і ў замежжы.

Старажытная Вільня, дзякуючы намаганням як старэйшага, так і маладога пакалення беларусаў, застаецца і цяпер для нас крыніцаю духоўнасці, захавальніцай традыцый беларускага Адраджэння. Страціць усё гэта было б недаравальна. Трэба думаць і ў самой Беларусі, як дапамагчы віленскім беларусам утрымаць сваю адказную справу.

**Ганна СУРМАЧ**

# Дэмакраты правядуць Кангрэс

**2-га кастрычніка ў Менску прайшло пасяджэнне па стварэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі.**

У пасяджэнні ўзялі ўдзел кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту Юрый Хадыка, кіраўнік "ценявога" ўрада Генадзь Карпенка і іншыя буйныя дзеячы беларускай апазіцыі.

Абраны аргкамітэт, у склад якога ўвайшлі 20 чалавек. У іх ліку — вядомыя дзеячы культуры Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі ды інш.

Чакаецца, што Кангрэс дэмакратычных сіл пройдзе 29—30 студзеня будучага года.

**Уладзімір Глод**

# "БОМБА" пад Прэзідэнта

**Дзеля дасягнення палітычнай згоды ў грамадстве неабходна ўсяляк умацоўваць згоду нацыянальную.**

БЕЛАРУСЬ 9/98

Гісторыя Беларусі склалася так, што нашая краіна на працягу трохсот гадоў падвяргалася ўзмоцненай дэнацыяналізацыі: спачатку была паланізацыя, а наступныя дзвесце год — русіфікацыя. У 1696 годзе на тэрыторыі нашай дзяржавы пачала панаваць польская мова, нашым продкам было забаронена афіцыйна ўжываць беларускую мову. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ўжо Расія забараніла беларускую мову — у 1831 годзе.

"У паўночна-заходнім краі так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто, бо, калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго дапусціць нельга". Так было сказана ў адным з лістоў губернатара Паўночна-Заходняга краю Мураўёва, або, як яго звалі, Мураўёва-вешальніка, да імператара.

Такая была афіцыйная палітыка царскай Расіі ў XIX стагоддзі. Тады асімілятары не баяліся галоснасці і не лічылі патрэбным крывіць душою.

Дзеля справядлівасці варта зазначыць, што прагрэсіўныя расейскія навукоўцы высока цанілі нашую мову і выступалі ў яе абарону.

Напрыклад, у 1837 годзе акадэмік Дзмітры Языкаў пісаў: "Сапраўдная беларуская мова ёсць вельмі цікавым помнікам, які нашыя навукоўцы мусяць руплiва даследаваць дзеля таго, што яна многае вытлумачае ў рускіх летапісах і філалогіі нашае мовы, "этот язык можно назвать отцом великорусского наречия". Гэта, верагодна, тая самая мова, якою гаварылі ў Пскове і Ноўгарадзе ў часы варагаў. Быўшы ўхіленай у добры час ад уплыву мангалізму і дасюль не паспытаўшы ўздзеяння вялікарасійскае гаворкі, яна шмат у чым захавала свой старажытны выгляд і характар і меней пацярпела ад формы польскае мовы, чым тое лічаць звычайна".

Нашая мова аказала пэўны ўплыў і на фармаванне мовы польскай. З гэтае нагоды польскі пісьменнік і публіцыст Станіслаў Мацкевіч зазначаў: "Спецыялісты-мовазнаўцы сцвярджаюць, і маюць рацыю, што палова з напісанага А. Міцкевічам не адпавядае нормам польскага літаратурнага маўлення. Міцкевіч быў магутным пасвам беларускай мовы, магутным прадаўжальнікам уплыву яе на польскую мову, які пачаўся яшчэ ў XV стагоддзі і зрабіў яе больш вытанчанай і далікатнай".

Вялікія спадзяванні ў сэнсе абароны сваёй нацыянальнай годнасці і адраджэння сваёй культуры беларусы ўскладалі на бальшавікоў і савецкую ўладу. На жаль, гэтыя спадзяванні не апраўдаліся. У 1918 годзе, неўзабаве пасля рэвалюцыі, старшыня Мінскага рабоча-сялянскага камітэта бальшавікоў Вільгельм Кнорын пісаў: "Мы лічым, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што этнаграфічныя асаблівасці, якія адрозніваюць іх ад астатніх расейцаў, павінны быць выкаранены".

Вось так, не болей і не меней: "павінны быць выкаранены". І варта прызнаць, што паплечнікі і паслядоўнікі Кнорына ў гэтым плане дасягнулі значных поспехаў. Аднак выкараніць беларусаў як нацыю яны ўсё ж не здолелі...

"Сапраўднай любові да сваёй краіны нельга ўявіць без любові да сваёй мовы, — сцвярджаў расейскі пісьменнік Канстанцін Паустоўскі. — Чалавек, абыякавы да сваёй мовы, — дзікун. Ён шкодны па самой сваёй сутнасці. Бо ягоная абыякавасць да мовы тлумачыцца самай поўнай абыякавасцю да мінуўшчыны, цяперашчыны і будучыні свайго народа".

Вышэйпададзеная цытата, на жаль, з выключнай дакладнасцю характарызуе цяперашні стан беларускай мовы, ды й беларускай культуры наогул. Аднак сёння геапалітычныя тэндэнцыі сведчаць аб тым, што для стварэння паўнавартаснага дзяржаўнага механізма надзвычай неабходная паўнавартасная нацыянальная ідэалогія, якая практычна немагчымая без належнага стаўлення да мовы карэннае нацыі.

Дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі Яўген Бабосаў, у прыватнасці, сцвярджае, што апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя, насуперак шматлікім пракорам і заклінальнікам, сталіся часам неверагоднага ажыўлення нацыянальных пачуццяў і рухаў, згуртавання нацый, росту іх самасвядомасці.

У гэтым моры вірыючых этнанацыянальных памкненняў і змаганняў Беларусь уяўляецца пабочнаму назіральніку нейкай выспаю ціхамірнасці або нават дрымоты. Аднак, лічыць акадэмік, і ў нас адбываецца працэс нацыянальнага адраджэння, узнікаюць спрэчкі, часам залішне эмацыйныя і дэструктыўныя, адносна праблемаў развіцця роднай мовы, яе статусу, яе ўзаемастасункаў з рускай мовай. На гэтай падставе, робіць ён высноў, маюць месца вострыя супярэчнасці, якія не даходзяць да крывавых сутычак, але ўсё ж такі праяўляюцца ў канфліктах — палітычных, культурных, палемічных...

Вызначальную ролю адыгрывае той факт, што беларусы з'яўляюцца ў Беларусі дзяржаваўтваральнай нацыяй. І калі будуць абаронены правы беларусаў, то ўсім астатнім народам яны будуць аўтаматычна гарантаваныя. Але з-за фактычнага ажыццяўлення пасля рэферэндуму 1995 года не ўзважанай нацыянальнай палітыкі законсервавалася і паглыбілася няроўнасць у становішчы беларускай мовы. Выявілася і нашае бяссілле ў пераадоленні наступстваў былой імперскай палітыкі. Такое становішча прыніжальнае для беларусаў у вачах не толькі суседзяў (Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі), але і народаў краін СНД, дзе родная мова з'яўляецца дзяржаўнай і вядзецца актыўная праца па яе абароне і захаванні. На жаль, праблема мовы ў Беларусі робіцца дэстабілізуючым фактарам, чым спрабуюць скарыстацца крайнія нацыяналістычныя групы.

Пытанне вызначэння законнага статусу беларускай мовы паўстала, калі Беларусь яшчэ не была суверэннай. Вядома, што камуністы ў пачатку 90-х гадоў адвяргалі ідэі дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, спадзеючыся на аднаўленне СССР. Аднак кіраўніцтва ЦК КПБ усё ж такі разумела, што негатыўнае стаўленне да беларускай мовы і культуры прывядзе да аслаблення ягонага ўплыву і поўнай страты сувязяў з інтэлігенцыяй. Таму, хоць і з вялікім спазненнем, Вярхоўным Саветам БССР яшчэ XI склікання быў прыняты "Закон аб мовах". Гэта адбылося ў студзені 1990 года.

Абсалютна відавочна, што шматмільённы народ з самабытнай культурай сярод белага дня не павінен пазбаўляцца роднай мовы на сваёй гістарычнай радзіме і растварацца ў іншым этнасе. Разлічваць жа на былую пакорлівасць інтэлігенцыі сёння ўжо не выпадае, а гэта стварае небяспеку ўзнікнення напружанасці і канфліктаў у грамадстве.

У Рэспубліцы Беларусь (паводле перапісу 1989 года) нацыянальны склад насельніцтва выглядае наступным чынам:

беларусаў — 77,9%;
расейцаў — 13,2%;
палякаў — 4,1%;
украінцаў — 2,9%
яўрэяў — 1,0%;
іншых нацыянальнасцяў — 0,8%.

Пры гэтым, зазначым, звыш 82% тых, хто жыве ў Беларусі, лічаць роднай беларускую мову. Лік жа першакласнікаў, якія навучаліся на беларускай мове, нават у самы пік "беларусізацыі" пачатку 90-х не дасягнуў і паловы ад агульнай колькасці навучэнцаў, а школ з навучаннем на беларускай мове было меней чым 20%. Адсюль вынікае выснова: дзеці людзей, якія прызнаюць роднай мовай беларускую, пазбаўлены магчымасці яе вывучаць. Гэта сур'ёзны перагін, які патрабуе неадкладнага дэтальнага вывучэння і прыняцця мераў па недапушчэнні такога становішча.

На рэферэндуме 1995 года, як вядома, было ўзаконена двухмоўе. Але не дзеля таго, каб цярпела якаясьці з моў — беларуская або руская, а дзеля іх раўнапраўя. А што атрымалася на справе?

З-за штучна створанай незапатрабаванасці беларускай мовы ў мінулым нямала беларусаў сёння дрэнна ведаюць (ці зусім не ведаюць) родную мову. У гэтым вінаватыя не толькі яны. Але, на жаль, непісьменнасць у нас падвойная: мы дрэнна ведаем і рускую мову. Пачуць правільнае, граматнае маўленне з вуснаў чыноўніка любога рангу амаль немагчыма ні на беларускай, ні на рускай мове. Тое самае і на занятках у школах і іншых навучальных установах. Не з'яўляюцца выключэннем і СМІ. Старонкі нашай прэсы літаральна перанасычаныя паланізмамі і русізмамі. Хіба гэта не найвастрэйшая дзяржаўная праблема? У Францыі, напрыклад, існуе закон: за ўжыванне замежных слоў у вулічных шыльдах і афіцыйных дакументах накладаецца штраф.

Два гады таму Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын спецыяльным указам стварыў урадавую камісію па рускай мове на чале з акадэмікам Яўгенам Чэлышавым.

Прэзідэнт Кыргызстана Аскар Акаеў падпісаў указ (у студзені гэтага года) аб далейшым развіцці ў краіне дзяржаўнай мовы — кіргізскай.

А ў нас, на Беларусі?

Калі казаць пра другую дзяржаўную мову, пра рускую, то яе пазіцыі былі і застаюцца непахіснымі. На Беларусі захоўваецца запатрабаванасць ведаў і адукацыі, атрыманых на рускай мове. Павага да рускай мовы — гэта праява павагі да блізкага па духу беларусам рускага народа, з якім мы падтрымліваем і павінны надалей усяляк развіваць добрасуседскія, даверлівыя адносіны. Безумоўна, не можа ісці і гаворкі пра ўціск гэтай мовы. Аднак справа ў тым, што ў святле апошніх геапалітычных перасовак ужо няма абсалютнага этнічнага камфорту і ўсеахопнай манаполіі рускай мовы, што і выклікала рашучую рэакцыю пэўных колаў. Іх намаганні ў рэшце рэшт завяршыліся вядомым рэферэндумам 1995 года.

Трэба нарэшце зразумець, што гаворка ідзе не аб "падкопе" пад рускую мову з мэтаю звузіць сферу яе ўжывання, а аб здаровым імкненні прадухіліць знікненне беларускай мовы і рэальна падняць яе да ўзроўню дзяржаўнай у Беларусі. Да таго ж у рускай мовы "пад бокам" яе магутная калыска (у асобе памежнай Расіі), і ў агляднай будучыні нішто ёй не пагражае.

У той жа час небяспека, якая навісла над беларускай мовай, як лічаць вучоныя-лінгвісты (у тым ліку і расейскія), застаецца рэальнай. Восем гадоў яе дзяржаўнага статусу практычна нічога не змянілі ў становчы бок. Хутчэй наадварот. Таму патрабуецца прыняцце тэрміновых і прадуманых узважаных захадаў. А калі ўжо казаць шчыра, то на сённяшні дзень патрабуецца, па сутнасці, яе "рэанімацыя"...

Нацыянальнае пытанне — сфера вельмі тонкая і далікатная. І да яе трэба ставіцца самым сур'ёзным чынам. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі і самай шырокай падтрымкі прапанова народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, выкладзеная ў вядомым лісце Прэзідэнту. Пісьменнік упэўнены: кожны чалавек, які займае дзяржаўную пасаду, абавязаны дасканала валодаць абедзвюма мовамі. Бацькам не трэба тады прымушаць або вызваляць дзяцей ад вывучэння той ці іншай мовы, бо будучыя дзяржаўныя служачыя павінны будуць ведаць абедзве мовы. Прычым не толькі міністры ці настаўнікі школ, але і дыпламаты, мытнікі, пагранічнікі і іншыя. Гэтыя прапановы вядомага пісьменніка ніколькі не ўціскаюць правы носьбітаў рускай мовы, але разгляд іх, на жаль, зацягваецца. Відаць, сёння ёсць вострая неабходнасць вярнуцца да іх...

Нягледзячы на тое, што беларускае грамадства выхавана ў глыбока інтэрнацыянальным ключы, увага і пашана да нацыянальнага паступова ўсё ж такі бярэ верх у светапоглядзе большае часткі нацыянальнай інтэлігенцыі і грамадзян нашай краіны. Да таго ж сёння, бадай, надышоў час адкарэктаваць уяўленне аб беларусах як аб надзвычай талерантнай нацыі. Паводле дадзеных апытання Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта, 18 працэнтаў рэспандэнтаў адзначылі, што маюць пэўную непрыязнасць да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў: чачэнцаў, азербайджанцаў, армянаў, яўрэяў, грузінаў. На думку супрацоўнікаў ІСПД, негатыўнае стаўленне да прадстаўнікоў каўказскіх народаў, якое мае месца ў нас, можа стаць прычынай міжасабовых або нават лакальных канфліктаў у грамадстве. Яны ўжо мелі месца ў Брэсце і Гомелі. Дарэчы, 17,4% апытаных гатовыя прыняць удзел у такога кшталту канфліктах на баку сваёй нацыянальнасці. Лічба немалая, і яна не павінна застацца па-за ўвагай грамадскасці і ўладаў.

Некаторыя аналітыкі, у тым ліку і згаданы вышэй Яўген Бабосаў, выказваюць асцярогу адносна цалкам верагоднага абвастрэння міжнацыянальных, перш за ўсё этнарэлігійных канфліктаў у заходніх рэгіёнах Беларусі, і ў прыватнасці ў Гродзенскай вобласці, дзе функцыянуе 43% рэлігійных арганізацый, зарэгістраваных у краіне.

Актуальнасць праблемы, якая датычыцца беларускай мовы, была пацверджана падчас прамой лініі, якую праводзіла газета "Звязда" з міністрам адукацыі Васілём Стражавым і міністрам культуры Аляксандрам Сасноўскім.

Мяркуючы па ўсім, многія чыноўнікі гэтых міністэрстваў і іншых ведамстваў, мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання праяўляюць залішнюю стараннасць у справе ўціску правоў носьбітаў беларускай мовы. Яны, хутчэй за ўсё, блага ўяўляюць сабе наступствы пагардлівага стаўлення да традыцый і звычаяў карэннай нацыі. Сёння, напрыклад, не рэдкасць пачуць і прачытаць у СМІ няхвальныя рэплікі на адрас нацыянальных герояў Беларусі і вядомых пісьменнікаў (К. Каліноўскага, В. Быкава, Р. Барадуліна, Л. Геніюш і інш.).

Сацыяльна-палітычная стабільнасць і нацыянальная згода — рэчы вельмі крохкія. На стварэнне "найтанчэйшага слоя" патрэбнай для грамадства раўнавагі і згоды ідуць гады, а часам і дзесяцігоддзі. Разбурыць жа яго, выклікаць чараду сацыяльных хваляванняў магчыма ў адно імгненне — усяго толькі адной памылкай. Нам уяўляецца, што нацыянальная палітыка, якая праводзіцца сён-

ня, — не што іншае, як сапраўдная "бомба" пад гэтую стабільнасць, а значыць і "бомба" пад самога Прэзідэнта Рэспублікі...

Цяпер можна пачуць, нават з высокіх трыбунаў, што Беларусь нібыта ўнікае "гвалтоўнае беларусізацыі". Але ж па сутнасці ніякай "гвалтоўнае беларусізацыі" ў пачатку 90-х і не было: нацыя проста пачала вяртаць тое, што належала ёй па праву. А вылячэнне цяжкай хваробы заўжды вельмі балючае. Гэтым і скарысталіся асобныя дзеячы, шмат хто з дзяржчыноўнікаў, што негатыўна ставіліся да нацыянальнай культуры, якія разгарнулі работу па выкараненні беларускай мовы, забываючы пра нацыянальнае пачуццё беларусаў. Гэта яшчэ раз пацвярджае: яны дрэнна разумеюць працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, і праяўляюць неразумную стараннасць. Нацыянальны ж фактар, апрача ўсяго іншага, з'яўляецца магутным рычагом пад'ёму эканомікі Беларусі. Пачуццё патрыятызму павінна абапірацца не столькі на пустую рыторыку, колькі на нацыянальна-культурныя каштоўнасці. І з кожным днём расце колькасць людзей з інтэлігенцыі, простага народа, нават з былой наменклатуры, адданых беларускай нацыянальнай ідэі.

Хаця большасць гарадскіх беларусаў, якія прыстасаваліся да рускамоўнага асяроддзя, без асаблівага энтузіязму ўспрымаюць беларусізацыю, у сэрцы сваім яны застаюцца беларусамі, вернымі сваёй Айчыне. Яны ж, у прынцыпе, ніколі не адмаўляліся ад сваёй беларускай крэўнасці насуперак перманентнай знешняй экспансіі, і большасць з іх хочуць, каб беларусізацыя працягвалася як натуральны, эвалюцыйны працэс іхнімі дзецьмі і ўнукамі.

Прыйшоў час эвалюцый, а не рэвалюцый. Прыйшоў час на справе, а не на словах заняцца абладкаваннем Беларусі і ўзгадаць, што краіна нашая — гэта і ёсць наш дом. У большасці беларусаў, якія жывуць за яе межамі, пры ўсіх выпрабаваннях і нягодах у глыбіні душы захавалася і жыве светлае пачуццё Радзімы, Айчыны. Гэта яшчэ раз сведчыць аб тым, што "самастаянне чалавека, зарука велічы яго" неаддзельнае ад самабытнасці нацыянальнай. Меў рацыю Фёдар Дастаеўскі, калі казаў далей: "Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу стагоддзяў беларускі народ і не захаваў бы сябе ніколі. Атрымліваецца, што не трэба замахвацца на самастойнасць жыцця нацыянальнага, а, наадварот, усімі сіламі пашыраць гэтае жыццё і як мага болей стаяць за яго самабытнасць".

Не надаваць сёння значэння нацыянальнаму пытанню і спадзявацца на тое, што гэты тугі вузел праблем на Беларусі развяжацца сам па сабе, — мякка кажучы, памылкова. Ход гісторыі пераконвае: хаваць, як страус, галаву ў пясок у гэтых пытаннях — занятак надта небяспечны.

Адзіна слушны шлях, якім павінна ісці Рэспубліка Беларусь, цяжкі, ён патрабуе карпатлівай працы. Трэба шукаць пункты судакранання, пашыраць зоны згоды і даверу паміж людзьмі з рознымі нацыянальнымі, палітычнымі і духоўнымі поглядамі. Нашая галоўная лінія павінна мець на ўвазе развіццё ўсіх нацыянальных груп (меншасцяў) праз пошук кампрамісаў і ўмацаванне аб'яднаўчых пачаткаў. Неабходна гранічна абачліва ставіцца да кожнага, нават асобнага выпадку непрадуманых выступаў па нацыянальных пытаннях у СМІ. Гэтыя з'явы, якія здаюцца прыватнымі, могуць мець самыя нeспрыяльныя наступствы.

Менавіта праз захаванне палітычнай незалежнасці і этнічнай унікальнасці суверэнных дзяржаў можа стацца найбольш паспяховай інтэграцыя народаў СНД. Гэта на сённяшні дзень адзіна разумная і цывілізаваная формула мірнага развіцця на постсавецкай прасторы.

Рэспубліка Беларусь — не толькі шматнацыянальная, але і шматканфесійная дзяржава. Побач з праваслаўнымі, да якіх адносяць сябе 2/3 насельніцтваў, тут жывуць і каталікі (прыкладна 20%), пратэстанты, мусульмане, прыхільнікі іншых рэлігій. Гэта сур'ёзны фактар, які спрыяе захаванню грамадска-палітычнай стабільнасці. Таму што ў аснове ўсіх рэлігій ляжаць практычна адны і тыя самыя маральныя прынцыпы: любоў да людзей, ганьбаванне амаральнасці і дараванне шчырых памылак, цярпімасць да іншадумства. Інакш кажучы, незалежна ад веравызнання, усе шчыра веруючыя грамадзяне краіны аднолькава талерантныя, высокамаральныя і міралюбныя.

Дзяржаўным структурам яшчэ прадстаіць радыкальна змяніць формы нацыянальнай культурнай палітыкі. Тая праца па прапагандзе нацыянальнай культуры, традыцый, звычаяў, якая сёння вядзецца, служыць, несумненна, канцылярыцкім пачаткам. Аднак цяпер ужо нельга абмяжоўвацца "фасадным" эстэтычным выхаваннем, культурна-масавымі мерапрыемствамі. Трэба комплексна вырашаць праблемы развіцця культуры, разумеючы пад гэтым і сістэму адукацыі, і сродкі масавай інфармацыі на беларускай мове, і інтэлектуальны патэнцыял нацыі ў цэлым.

Ва ўсіх грамадзянаў Беларусі агульны лёс. Людзей розных нацыянальнасцяў аб'ядноўвае ў ёй шматвяковы вопыт сумеснага жыцця, агульныя радасці і пакуты. Таму ўсямернае ўмацаванне суверэнітэту, забеспячэнне стабільнасці ў грамадстве, дынамічнае развіццё эканомікі і павышэнне дабрабыту людзей — вось шлях да таго, каб зрабіць жыццё людзей больш шчаслівым, грамадства — дэмакратычным, а дзяржаўнасць — непахіснай. А гэта магчыма толькі пры дасягненні поўнай палітычнай і нацыянальнай згоды ў грамадстве.

**Міхаіл ЖЭБРАК.**

# «А ТЫ КАК ДУМАЛ?»

"Беларусская газета"



Валентин ТАРАС

**Я ушел в партизаны в сорок третьем, тринадцатилетним мальчишкой, и это был не только романтический выбор, хотя, конечно, романтики хватало, но и вполне взрослый, что называется, идейный: я, как волчонок, готов был перегрызть горло каждому, кто хоть слово скажет против советской власти. Мальчишка-партизан из моего давнего рассказа «Случайный выстрел», ярый советский патриот, который бабахнул из карабина в своего же сотрядника, хлопца из глухой западнобелорусской деревни, и чуть его не убил только за то, что хлопец матюками облаял колхозы, - персонаж невыдуманный.**

Но было и другое. Например, наивное поначалу непонимание, почему партизаны, люди, которые пришли в отряд добровольно, так боятся особого отдела? Лучше попасть в руки гестапо, нежели вызвать хотя бы тень подозрения со стороны особистов. Я не раз видел, как меняется в лице человек, когда его вызывают в особый отдел, становится белым как полотно!.. Что из того, что ты не знаешь за собой никакой вины? Ни в чем не виновата была и Лена Станкевич, но ее расстреляли как агента СД, хотя весь отряд знал, что все обвинения против нее - ложь, что это один из особистов, которому Лена дала «от ворот поворот», свел с ней подлые счеты, использовав стечение обстоятельств. Лена ушла на задание в Минск, там попала в полицейскую облаву на Комаровском рынке, что-то в ее документах не понравилось полицаям и ее посадили в тюрьму. А из тюрьмы в качестве дармовой обслуги отвели однажды мыть полы в здании полиции на Логойском тракте, откуда ей удалось бежать и вернуться в отряд. Там за нее взялись свои - особый отдел: *«Слишком просто все у тебя получилось, дорогуша! Не рассказывай сказки! Мы же знаем, что тебя завербовали. И устроили тебе «побег»*. Отряд не ошибался: через тринадцать лет Елена Станкевич была реабилитирована посмертно...

Но уже не просто непонимание, а смятение и ужас охватили меня, когда я услышал, как особист из штаба бригады, в которую входил наш отряд, признается, что был палачом. Семья этого особиста (фамилию его забыл) жила то ли в Бресте, то ли в Барановичах, кто-то выдал ее немцам, и всю семью повесили. И вот особист, напившись, ходил по расположению штаба бригады (я оказался там как связной от отряда) и бил себя в грудь кулаком, плакал и кричал, приставая ко всем: *«Ты когда-нибудь видел, чтобы чекист плакал? Я никогда не плакал! Я расстреливал людей в затылок, и не плакал! Я заталкивал людей в душегубки, и не плакал! А сегодня я плачу! Деток моих повесили! Жену, маму!..»*

Конечно, горе его было страшным, но я ужаснулся не только этому - меня ошеломило, перевернуло все мои мозги то, что он кричал о выстрелах в затылок, о душегубках. Разве у нас тоже душегубки? Это у фашистов душегубки! Что он плетет?! Вечером я спросил об этом у начальника партизанской типографии, и тот, пряча глаза, сказал: *«Понимаешь, у нашей страны было очень много врагов. Внутренних. Кулаки, всякие мелкие буржуи, попы... Они мешали строить социализм, и нужно было как можно скорей от них избавиться!»*

Скоро я сам увидел, как это делается, что такое *«как можно скорей»*.

В сорок четвертом, в начале января, если не ошибаюсь, или, может, еще в декабре сорок третьего, в данном случае это не важно и сути не меняет, наша бригада разоружила и нейтрализовала отряды польской Армии Крайовой (АК), которые действовали в Налибокской и Ивенецкой пущах. АК подчинялась польскому эмигрантскому правительству в Лондоне и придерживалась директивы вести борьбу одновременно против «двух оккупантов» - немцев и большевиков. Директива эта была принята еще осенью 1939 года в ответ на сговор Сталина и Гитлера о разделе Польши, но после нападения Германии на Советский Союз действие директивы было приостановлено. И до поры до времени отряды АК, созданные на территории Западной Белоруссии, воевали только с немцами, нередко вместе с белорусскими советскими партизанами. Но к исходу сорок третьего между ними начались стычки - правительство Польши в Лондоне вспомнило о своих притязаниях на Западную Беларусь как на часть довоенного польского государства. Директива о борьбе с «двумя оккупантами» снова вступила в силу. Но если на территории Польши в рядах АК сражались четыреста тысяч бойцов, то в белорусских лесах их была горстка. В нашей пуще их разоружили в течение нескольких дней. Но если бы только разоружили!

Командира разоруженной «аковской» бригады и его штаб отправили самолетом в Москву, всех остальных офицеров расстреляли. Преддверие одного из расстрелов я и видел.

Несколько офицеров-аковцев, человек пять, содержались под стражей в расположении нашего отряда. И повели их на расстрел на моих глазах. Они шли по узенькой тропке, протоптанной в глубоком снегу, с деревянными лопатами в руках, чтобы самим вырыть себе могилу в сугробах. А я в это время стоял на посту - охранял колодец, который считался важным объктом: враг может его отравить!..

Была оттепель, небо было хмурым, низким, мокрые снежные хлопья опадали с сосен на головы и плечи обреченных. Шли они спокойно, как на работу, о чем-то тихо переговаривались. И, проходя мимо моего поста, как-то жадно, с какой-то странной улыбкой смотрели на меня - так многие годы спустя смотрел на меня перед смертью мой отец...

Эти офицеры меня знали: еще неделю назад я охранял землянку, в которой их держали, и выводил по одному «в уборную», под сосны. Офицеры заговаривали со мной и я понимал каждое их слово, потому что знаю польский с пеленок, от бабки и мамы. Но отвечать, разговаривать с ними я не имел права и только лыбился, когда они шутили: *«Цо, хлопак, бэндзеш пільноваць мое гавно?»* Они шутили, посмеивались над собой и надо мною, потому что это и в самом доле забавно, когда взрослый человек, спустив штаны, сидит под сосной на корточках, а пацан тринадцати лет стоит над ним с карабином наперевес! Должно быть, им и в голову не приходило, что их расстреляют. Потому что - за что? Они сдались советским партизанам без сопротивления, а до этого вместе с ними три года воевали с немцами, так что ничего плохого не случится. Разве это не добрый знак, что их охраняет мальчишка? Значит, не видят в них врагов, знают, что они и не помышляют о побеге.

И вот их вели на расстрел автоматчики в белых кожухах и в кубанках, незнакомые мне особисты, не из нашего отряда. Присланные... И протрещали, как сороки, автоматные очереди в тишине пущи... А через несколько часов отряд подняли по тревоге: прочесывать лес, искать босой след на снегу! Один из расстрелянных бежал. Недострелили!..

*«А почему след босой?»* - спросил я одного из наших ребят, весельчака Колю Аксючица. - *Они же в сапогах все были, я видел!»* Коля хохотнул: *«Разули, лопушок! Перед тем, как шлепнуть. А ты как думал?»*

С тех пор я и впрямь стал думать...

## Прэзыдэнт Польшчы падпісаў права аб люстрацыі

Памінаючы абавы адносна розных надужываньняў, пэзыдэнт Польшчы А. Квасьнеўскі адобрыў права, якое абавязуе ўсіх высокіх урадоўцаў, парлямэнтарыяў і судзьдзяў выявіць ці яны супрацоўнічалі ў часе савецкае эры з органамі бясьпекі. Тыя, што пададуць фальшывыя даныя могуць атрымаць штрафы і быць пазбаўленымі свае працы. Тыя-ж, што прызнаюць сваё супрацоўніцтва з органамі бясьпекі, будуць раскрытыя ў сродках масавае інфармацыі.

## ЯКАЯ ЦАНА АМЭРЫКАНСКАГА ДАЛЯРА НА БЕЛАРУСІ ?..

Паводле апошніх вестак абменны курс амэрыканскага даляра ў Менску выглядае такім чынам: Афіцыяльны абмен — 63,500 рублёў за даляра, абмен для нерэзыдэнтаў — 73.000. А на чорным рынку цана даляра выносіць 120.000 рублёў і шмат вышэй... Беларускія банкі даляраў ня маюць, і купіць даляры можна толькі на чорным рынку...

«РОДНАЕ СЛОВА»

Мікола ГІЛЬ

## ДУМАЙЦЕ, МАМЫ, ДУМАЙЦЕ!

**РЭХА З 1987 ГОДА**

Як бы хто ні ацэньваў перыяд так званай перабудовы, аднак жа відавочна, што ён дапамог людзям на многае расплюшчыць вочы. У тым ліку і на стан нашай нацыянальнай школы, найперш — беларускай мовы ў ёй. Упершыню за многія гады загаварылі пра тое, што беларуская мова ў школе, як і паўсюль, знаходзіцца ў занядбанні, што дзеці вызваляюцца ад яе вывучэння, што ў школьных бібліятэках няма кніг нашых пісьменнікаў, што чыноўнікі ад асветы не развіваюць нацыянальную адукацыю, а свядома вынішчаюць яе, вядуць адкрытую агітацыю не за беларускую школу, а за яе ўсеагульную ліквідацыю. Сітуацыя сапраўды была трывожная, калі не трагічная.

Свядомыя беларусы, найперш настаўніцтва, дзеячы літаратуры і мастацтва забілі ў званы: "Ратуйма беларускую школу!". У рэшце рэшт Міністэрства адукацыі выдала ў 1987 г. славуты загад № 32 — аб адкрыцці беларускіх класаў у рускамоўных школах. У яго рэалізацыі актыўны ўдзел прынялі пісьменнікі. Многія з нас наведалі школы ў розных гарадах Беларусі, правялі гутаркі з бацькамі, агітуючы аддаваць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы.

На бацькоўскім сходзе ў адной з мінскіх школ пабыў у тым годзе і я, выступіў перад бацькамі будучых першакласнікаў. А нядаўна адна з тых маці, якія прысутнічалі на сходзе, перадала мне дыктафонны запіс гэтага выступлення. Паслухаў я, што гаварыў бацькам больш чым дзесяць гадоў таму, і... яшчэ большыя сум і гаркота апанавалі мяне. Бо й сёння сітуацыя з беларускай моваій у школе, на жаль, не палепшылася. Нават сёе-тое з таго, што было зроблена для выпраўлення ганебнага становішча ў гады перабудовы і ў першыя гады незалежнасці Беларусі, адкінута назад: маўляў, Закон аб мовах у Беларусі, прыняты ў 1990 г., ажыццяўляўся гвалтоўным чынам, не вяртаў беларускую мову, а насаджаў яе. Зноў вядзецца гаворка пра тое, што трэба ўлічваць рэальную сітуацыю, якая склалася ў краіне, і ўсё прыводзіць у адпаведнасць з гэтай сітуацыяй.

Адным словам, становішча беларускай мовы ў школе практычна тое ж, што і дзесяць гадоў таму, хоць сёння мы жывём ва ўмовах рэальнай, а не фармальнай, як тады, незалежнасці. І колішняе маё выступленне перад некалькімі дзесяткамі мінскіх татаў і мамаў першакласнікаў — не толькі рэха з 1987 г., як пазначана ў падзагалоўку.

За гады крывавай сталіншчыны, за гады валюнтарызму Хрушчова і бязладдзя, бяздзейнасці Брэжнева, якія мы мякка называем гадамі застою, у эканоміцы, грамадскім і палітычным жыцці адбылося столькі невераґодных дэфармацый, што пазбаўляцца ад іх мы будзем вельмі доўга. Мы (балючча гэта ўсведамляць) ператварыліся ў рабоў абставінаў. Мы прывыклі жыць у прыніжанасці і прыцярпеласці.

Але для нас, беларусаў, самым ганебным прыніжэннем з'яўляецца сітуацыя, якая склалася за пасляваенныя гады з нашай моваю, культурай, гісторыяй, з нашай нацыянальнай свядомасцю. Ці можна ісці далей "па шляху росквіту нацыянальнай культуры беларускага народа", калі ў сталіцы рэспублікі, у абласных і раённых гарадах няма аніводнай беларускай школы? Калі мова народа выцеснена з ужытку адусюль — з тэхнікумаў, з інстытутаў, з грамадскіх, дзяржаўных, савецкіх установаў і арганізацый, калі яна зведзена толькі да абслугоўвання зносінаў людзей у вузкай сферы сям'і?

Адзін паважаны і вядомы наш пісьменнік казаў некалі: "Беларусы, як і іншыя нацыі краіны, сталі народам адукаваным, інтэлігентным". Так, наша рэспубліка, як і іншыя, даўно стала адукаванай — усім забяспечана як мінімум сярэдняя адукацыя. А вось накont інтэлігентнасці... Інтэлігент не вызваліць сваё дзіця ад вывучэння роднай мовы. Інтэлігент не адвернецца ад кнігі толькі таму, што яна — беларуская. Згадаю словы выдатнага рускага пісьменніка Канстанціна Паўстоўскага, які гаварыў, што годнасць чалавека правяраецца ягонымі адносінамі да роднай мовы, што чалавек, які не ведае роднай мовы, — дзікун. Ну дык колькі дзікуноў ходзіць сярод нас?

Я разумею, што гэта не столькі іх віна, як бяда. Людзі пазбаўлены магчымасці гаварыць на роднай мове на працы, на вуліцы, нават дома, не могуць пісаць па-беларуску дзелавыя паперы, атрымліваць даведкі і розныя іншыя дакументы. Мы і тут аддаліся на волю чыноўнікам. А яны ўсё вымяраюць рублём, усё пераводзяць у грошы. Яны і нацыянальную культуру вымяраюць грашыма: гэта не дае прыбытку, а гэта — дае. А між тым... Памятаеце, што гаварыў Францішак Багушэвіч? *"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"* і дадаваў: *"Мова — адзежа душы"*. А адзежа з душы не так проста здымаецца, як з цела. Адзежа з душы здымаецца разам з душою — вось у чым сакрэт. Калі не будзе беларускай мовы, не будзе і нас, беларусаў, не будзе нашага народа. *"Вымерла мова ў вуснах народа — вымер і народ"*, — сурова, але слушна сказаў вялікі рускі педагог Канстанцін Ушынскі.

Мы, беларусы, у гэтым пытанні дайшлі да мяжы, за якой — смерць. Таму нам трэба неадкладна перагледзець усю сістэму выхавання, асветы і адукацыі, каб дзеці нашы ведалі, чые яны сыны і дочкі, каб паважалі і любілі сваю гісторыю, свой народ і сваю мову. Адхіленні ў бок нацыянальнага нігілізму зайшлі надта далёка, выправіць іх вельмі і вельмі нялёгка, таму напераздзе велізарная работа сярод народа. Дайшло да таго, што многія з нас проста саромеюцца публічна карыстацца беларускай моваю. Найперш тыя, што выбіліся "ў людзі", атрымалі адукацыю. А саромецца трэба няведання роднай мовы!

Чаму ж склалася гэткая сітуацыя? Гісторыя гэта даўняя і няпростая. Народ наш адзін са старажытных славянскіх народаў, з даўняй і слаўнай гісторыяй, з моцнымі культурнымі каранямі і традыцыямі. І мы маем права шмат чым ганарыцца перад іншымі народамі свету. Успомнім толькі такія магутныя постаці, як Францішак Скарына, Сымон Будны, Кірыла Тураўскі, Мікола Гусоўскі, Васіль Цяпінскі, Казімір Лышчынскі, Кастусь Каліноўскі. А Сімяон Полацкі, што стаў першым рускім паэтам і настаўнікам, выхавальнікам царскіх дзяцей? А аўтары першых рускіх падручнікаў "Граматыкі" ды "Арыфметыкі" Мялецій Смятрыцкі і Лявонцій Магніцкі? Яны ж таксама паходзяць з нашага краю. А паплечнік расейскага першадрукара Івана Фёдарава Пётр Мсціславец? Адсюль, з Беларусі, прынёс ён у Маскву сваё ўмельства кнігадруку — як-ніяк, беларуская кніга выйшла ў свет на паўстагоддзя раней за рускую. Ды, зрэшты, справа не ў гэтым, справа ў тым, што мы сёння маем багатую спадчыну.

Расул Гамзатаў неяк сказаў: "*Без нацыянальных традыцый рэспубліка падобная да нарыхтоўчай канторы*". Страшнае, але ў дачыненні да Беларусі справядлівае вызначэнне. Высокі матэрыяльны дабрабыт вымагае і высокага духоўнага забеспячэння, а апошняе немагчыма за кошт чужога, прывазнога, пазычанага. Мы абураемся праявамі п'янства, разбэшчанасці, цынізму, жорсткасці, бездухоўнасці. Гэта ўсё прыйшло не само па сабе, не проста так. Гэта вынік абсячэння родных каранёў, забруджвання вытокаў нацыянальнай культуры, аслаблення нацыянальнай свядомасці, вытручвання духоўнай культуры і гістарычнай памяці. А скуль яна возьмецца, гэтая памяць, калі дзеці нашы не чытаюць кніг, напісаных на мове сваёй зямлі? А як яны будуць чытаць іх, калі на гэтай мове не вучаць у школе? Усё ж пачынаецца з калыскі, з маленства. З малаком маці да чалавека прыходзяць святыя пачуцці любові і вернасці роднай зямлі. А калі дзіця, як сказаў Сяргей Грахоўскі, "*І грудзі матчыны кусае, ледзь-ледзь прарэжацца зубок*"? Добра, калі чалавечак, падросшы, зразумее, што нельга кусаць матчыны грудзі — грудзі роднай культуры, роднай мовы. А калі не зразумее? Будзе і іншых вучыць кусаць. Будзе ўсё жыццё змагацца з нацыяналізмам.

Адна з прычынаў нашых бедаў — празмерная цэнтралізацыя ў галіне асветы, адукацыі, культуры. Згадаю, што ў свой час была прынята пастанова аб даплаце настаўнікам рускай мовы ў нацыянальных рэспубліках. Можа, гэта і разумная мера для рэспублік Сярэдняй Азіі, Прыбалтыкі ці Закаўказзя — там не ўсе выпускнікі сярэдняй школы, нават ВНУ валодаюць рускай моваю. Але ў нас, на Беларусі, гэтая праблема цалкам адваротная! На добры лад, трэба даплочваць настаўнікам, якія выкладаюць беларускую мову. Дык жа — не! І ў нас даплочваюць выкладчыкам рускай мовы! І ніхто з чыноўнікаў не бачыць, што гэта — абсурд!

Яшчэ адну з прычынаў сённяшняга становішча беларускай мовы многія бачаць у тым, што мільёны вясковых людзей перасяліліся ў гарады, якія спрадвеку, маўляў, на Беларусі рускамоўныя. Гэта так і не так. Справа ў тым, што перасяленне адбывалася нечуванымі тэмпамі: за чвэрць стагоддзя Мінск вырас ледзь не ў двухмільённы горад! А пасля вайны ў ім засталіся нейкія сто, а мо й меней, тысяч чалавек. Вясковыя людзі, перасяліўшыся ў горад, не знайшлі гарманічнага спосабу зносінаў адно з адным. Раз'яднанасць, адзінота, адсутнасць унутранай культуры прывялі да п'янства. І падманваць сябе, шукаць нейкія іншыя прычыны звонку не трэба. Яны ўнутры нас. Чалавек у горадзе як бы атрасаўся ад вясковых звычак, традыцый, нормаў паводзінаў: тут я, маўляў, між чужых, ніхто мяне не ведае, раблю, што хачу. Атрасаўся, вядома ж, і ад мовы.

Нягледзячы на ўсё, жыве народ і жыве яго мова. У кожным з нас жыве. Часам нават насуперак уласным жаданням. На людзях многія з нас старанна выстаўляюць сябе "культурнымі", намагаюцца "русіць", нібы якія тулякі ці разанцы. А здарыцца бяда якая ці радасць — расхвалюецца чалавек, забудзецца пра напятыя на сябе "культурныя" даспехі і раптам загаворыць сваім родным, усмактаным з малаком маці словам. Колькі разоў чуў я гэтыя раптоўныя пераходы з "гарадской культурнай" мовы на родную, звыклую, натуральную для чалавека, якая, аказваецца, жыве ў душы і азываецца толькі тады, калі чалавек ці раззлуецца, ці заплача над труною блізкага, дарагога чалавека, ці ў радасці песню родную заспявае.

У Скарыны сказана: "Звяры памятаюць норы свае, рыбы ведаюць рэкі свае, пчолы бароняць вуллі свае... Гэтак і чалавек, дзе нарадзіўся і свет спазнаў, тую мясціну памятае і мае да яе вялікую ласку".

Дзеля чаго я нагадваю гэтыя словы? Ды я прашу вас проста падумаць пра лёс сваіх дзяцей.

Горка пра гэта гаварыць, але спытаем сябе — кім яны растуць? Не беларусамі? Тады — кім? Рускімі? Не, нягледзячы на тое, што вакол пануюць руская мова, рускамоўны друк, рускамоўнае тэлебачанне, рускамоўныя тэатры і кіно, кнігі, школы, тэхнікумы і ВНУ, яны растуць усё ж не рускімі. Дык кім?

Дзеці нашы будуць жыць у беларускай нацыянальнай дзяржаве. Абавязкова будуць! Такая хада гісторыі, якой ніхто не адменіць, каб і хацеў. І таму нам трэба думаць пра лёс нашых дзяцей, думаць ужо сёння. Дбаць пра тое, каб яны пакрысе станавіліся беларусамі, вярталіся да бацькоўскіх, дзядоўскіх, прадзедаўскіх каранёў.



**Паважанага Спадара Браніслава Даніловіча,**
ведамага беларускага патрыёта і заслужанага грамадзкага дзеяча ў замежжы віншуем з **90-годзьдзем жыцьця** і шчыра жадаем яму 100 год з гакам!

Мікола Прускі
і "Беларускі Дайджэст"

# СТРАХ ПЕРАД СТАРЭННЕМ —

Знакамітая Сафі Ларэн наконт гэтага разважае так: «Таямніца адкрылася мне ў час здымак фільма «Лэдзі Л.», які выйшаў на экраны ў 1965 годзе. Па сцэнарыю я павінна была ператварыцца ў 80-гадовую бабульку. Для апошніх кадраў грымёры зрабілі мне маршчыны і прыклеілі лішнюю скуру. Я са здзіўленнем глядзела, як проста на вачах знікла маё юнацтва. Змяніўся не толькі твар: даволся перайимаць манеры і паходку старой жанчыны. Цела адзервянела, плечы згорбіліся. Вочы пачалі касавурыць. Я не толькі выглядала, але і адчувала сябе старой».

Сама актрыса, як вядома, не паддалася гіпнозу лічбаў, пераступіўшы за шасцідзесяцігадовую мяжу. Адсюль адзін з урокаў: не дазваляйце душы старэць, не дазваляйце дрэннаму настрою ўрывацца на працяглы час у ваша жыццё. Усмешка — вось зброя супраць страху пастарэць. Успомніце аб выдатных уласцівасцях вады. Басейн, лазня, возера, рака, сажалка — магутныя вашы памочнікі.

А яшчэ кажуць, што трэба піць вады столькі, колькі хочацца. Есці многа гародніны. Гэта задаволіць патрэбы арганізма ў вадкасці, і клеткі, асабліва твару, не будуць абязводжвацца. Авіцэна гаварыў, што старасць — гэта сухасць.

У вас ёсць на твары дэфект? Пакіньце самаедскае катаванне — кожную раніцу ўважліва разглядаць яго ў люстэрку. Люстэрка кадзіруе на старэнне. Чым больш вы глядзіце на недахоп сваёй знешнасці, тым часцей яго прыкмячаюць людзі. Люстэрку трэба кожны дзень гаварыць аб тым, якія вы прыгожыя!

Прачнуўшыся, не падымайцеся імгненна з ложка, нават калі праспалі. Усё роўна час ужо не вернеш назад. Паспрабуйце адчуць сваё цела дзве—тры хвіліны маладым і прыгожым. І ўставайце так, каб першай датыкнулася падлогі правая нага. Выраз «устаў з левай нагі» мае глыбокую фізіялагічную прычыну.

Не насіце на твары застылыя маскі. Навучыцеся, а гэта дасягаецца трэніроўкамі, заплюшчыўшы вочы і забыўшы пра ўсё на свеце, апрача свайго твару, адчуваць пругкасць шчок, бляск вачэй, чысціню лба, даўжыню вейкаў, прыгожую форму носа і брывоў. Напоўніце ўсё сілай сваіх думак. Праз некаторы час паколванне, цяпло ці прахалода на твары будуць сведчыць, што вы становіцеся самі для сябе мастаком.

Не кладзіцеся спаць у паўнепрытомным стане ад стомленасці. Нават калі няма сіл, зрабіце гарачую ванну для ног. Яна здыме негатыўныя вынікі дня і нейтралізуе, як кажуць у народзе, сурокі. У ванну можна дадаць кропелькі духмяных масел — мяты, эўкаліпту.

Не заганяйце сябе ў вугал. У прамым і ва ўскосным разуменні біяфізікі і біяэнергетыкі сцвярджаюць: ні ложак, ні рабочае месца, ні крэсла для адпачынку не павінны размяшчацца ў кутку пакоя. Тут адбываецца, кажучы не навуковай моваю, «адсысанне энергіі». Паназірайце за хатнімі жывёламі — ці ляжаць яны калі ў кутку.

І яшчэ адзін сродак — не жадайце іншым таго, чаго не пажадаеце сабе. Добразычлівасць стварае гармонію ўнутры сябе і вакол. А значыць, і самую доўгую дарогу да старэння.

**Па матэрыялах перыядычнага друку**

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
ЧАКАЕ ВАШАЕ АХВЯРЫ

# ПА ВЫПАЛЕНАЙ ЗЯМЛІ ідуць сучасныя плагіятары бальшавіцкай палітыкі

«ПАГОНЯ»

**Набліжаецца гадавіна рэферэндума 1996 года, які ўвайшоў у гісторыю, як падзея смутная, бессэнсоўная, агрэсіўная адносна ўласнага народа, хамская адносна міжнароднага супольніцтва і безнадзейна камічная ў перспектыве, якім бы бокам не павярнулася будучыня: у любым выпадку адкрыты і схаваны змест пытанняў рэферэндуму будзе выклікаць смех як на Усходзе, так і на Захадзе. Ці будзе разам з імі ўсміхацца і мы, беларусы, вызначаючы здаровай рэакцыяй псіхікі свае адносіны да гэтай досыць трагічнай з пазіцый сённяшняга дня старонкі нашай гісторыі?**

Дзеянні прэзідэнта А.Лукашэнкі ад самага пачатку яго прэзідэнцтва вельмі нагадваць паводзіны бальшавікоў пасля кастрычніка 1917-га. З той толькі розніцай, што наш прэзідэнт робіць "рэвалюцыю" адзінаасобна. Можна досыць блізка прасачыць аналогіі ў дзяржаўным будаўніцтве, кіраўніцтве эканомікай, сацыяльным маніпуляванні і гэтак далей. Можна сказаць, што падобнасць палітычных мэтаў патрабуе падабенства ў палітычнай метадыцы. Можна падумаць, што Аляксандр Рыгоравіч карыстаўся навукова-практычнай спадчынай бальшавікоў, усім багаццем вопыту, накопленага бальшавіцкімі спадкаемцамі, нейкім "Кароткім курсам" захопу і ўтрымання неабмежаванай ўлады ў адной, асобна ўзятай краіне. Можна заўважыць, што прэзідэнт выяўляе інстынктыўную схільнасць да метадалогіі "правадыроў пралетарыята", пры тым, што апошнія не былі адзінымі ў свеце, хто скарыстаў палітычнае насілле і дыктатуру дзеля спаўнення сваіх амбіцыйных планаў.

Але галоўнае, што кідаецца ў вочы і што выяўляе вялікую розніцу паміж тымі падзеямі і сучаснасцю, - гэта наяўнасць ідэалогіі ў "тых" і яе адсутнасць у "гэтых". Не, вядома, нейкія тлумачэнні сваіх дзеянняў сённяшняя ўлада прыводзіць - але на гэтым функцыя ідэалогіі вычэрпваецца. Няма высокага Ідэала. Такога, за які можна забіць мільёны людзей пры захопе ўлады і яшчэ больш - пры яе ажыццяўленні. Такога, каб абабраны народ мог дзесяцігоддзі цярпець жабрацтва дзеля прывіднай мэты "сусветнай рэвалюцыі" і "пабудовы камунізма". Такога, каб мог задурыць розум жыхарам суседніх дзяржаваў і аб'яднаць іх у "пятыя калоны" падтрымкі рэвалюцыянераў.

Тое, што зараз прадукуе беларуская прапаганда: панславізм, рэстаўрацыя "бурбонаў" (СССР), юрыдычнае афармленне штучнай харызмы, роўнасць у галоце, вертыкальна-фюрэрская пабудова ўлады і эканомікі і да таго падобнае, - з'яўляецца ўсяго толькі абслугоўваннем з боку ідэалогіі палітычных блокаў, альянсаў, сумесных памкненняў, палітычных кампрамісаў ды іншых рухаў улады. Ідэалогія носіць несумненны другасны характар. Не тое было ў бальшавікоў.

Пры ўсіх амбіцыях і крыўдах на былы рэжым у бальшавікоў нельга адабраць ідэйнасці. Гэта потым усе іх помыслы сталі вычэрпвацца "голай" уладай. А напачатку яны шчыра верылі, што належыць ім узяць уладу і, як прадказаў Маркс, "блага польются широким потоком", прычым, не толькі ў кішэнь "слуг народа".

Паверыць у тое, што сённяшняе кіраўніцтва краіны найперш турбуецца пра народны дабрабыт, можа толькі безнадзейны "электарат". Дарэчы, дабраякаснае жыццё народа, будзем аб'ектыўнымі, практычна ніколі не заяўлялася ў якасці прыярытэта палітыкі. "Запусцім заводы", "усіх у Гімалаі", "вернем сімвалы", "адновім Саюз" - тут няма месца звычайнаму мяшчанскаму дабрабыту. А потым і ўвогуле пайшло-паехала: "знішчым ворагаў", "напалохаем жыда-капіталістаў", "вернем ядзерную зброю", "эксгуміруем усё добрае і лепшае"... Ну, якая ж гэта Ідэя?! Так, набор фраз, накшталт таго, які завучыў базарны гандляр на ўсе выпадкі жыцця.

Сотні і тысячы навукоўцаў, аналітыкаў, газетчыкаў, прафесійных майстроў сацыяльнага маніпулявання чатыры гады ствараюць штосьці звязнае і цэльнае, што хаця б пацягнула (не, не на Ідэю) на афіцыйную ідэалогію - і з абсалютна пустым вынікам. Носьбіты ўлады Ідэі не маюць - адтаго яе немагчыма "намаляваць". Сапраўды, хто сёння пойдзе паміраць ці дарэмна працаваць за аднаўленне сацыялізма, аб'яднанне з браткамі па крыві і гэткую падобную лухту? Ніхто.

У той жа час, прапаганда, як не намагаецца, не можа скампраметаваць ідэалогію апазіцыі: дэмакратыя, рынак, незалежнасць. Цяжка ёй даводзіцца, нельга ж заяўляць: прыгон, дыктатура, халопская залежнасць. Даводзіцца пазычаць чужыя каштоўнасці, выдаваць іх за свае -а хлусні і без таго задужа.

На рэферэндуме-96 улада перакраіла дзяржаўны лад на бальшавіцкі капыл. Аднак за душой як было пуста, так і засталося. Што далей, трэці рэферэндум, з адзіным і апошнім пытаннем: "Народ свой выбар зрабіў раз і назаўжды"? Бальшавікі шмат паездзілі на карку народаў, скарыстаўшы падобны падыход, пасля ўсталявання таталітарнага ладу кіравання. Але ў іх былі, акрамя Ідэі, яшчэ і рэсурсы велізарнай дзяржавы.

Словам, усё зразумела. Песімісты могуць усцешыцца тым, што крах церпяць не толькі добрыя памкненні, але і благія.

**Сяргей Самасей**

Самсон Пярловіч

## ГІМН МАЛОГА БЕЛАРУСА

Беларусам нарадзіўся —
Беларусам буду жыць.
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць.
Мне радзімая старонка
Наймілей, найдаражэй,
Беларуская гаворка
Мне за ўсё найпрыгажэй.
Сьцяг наш бел-чырвона-белы
Буду сэрцам сагравацЬ
Буду герб з Пагоняй сьмелай,
Як сьвятыню, шанаваць.
Славу родную і волю
Я ніколі не прадам.
За народ наш беларускі
Я жыцьцё сваё аддам.

* * *

З такою пакутлівай доляй
ня знойдзеш народу ты больш.
Вось гэтак мірыцца з няволяй
нам нельга, бо станецца горш.
Ніколі з кален не падняцца
народу, ня ўзьняць галавы,
пакуль не пачне ён змагацца —
адстойваць свабоду, правы.
Я веру, такі час настане —
развеецца змрочны туман.
Убачыш яшчэ ты яднаньне
народу, што ўведзены ў зман.

*Юрась Невядомы*
г. Баранавічы.

# Журавіны не ўзышлі...

З ЖУРНАЛІСЦКАГА БЛАКНОТА

Прыгарадным дызельпоездам надвячоркам з лясоў Старадарожчыны вярталіся грыбнікі і ягаднікі. Пазнаў дзвюх настаўніц-пенсіянерак са Слуцка. У кожнай ля ног стаялі перавязаныя белымі хусцінкамі вёдры. Поезд пазніўся і жанчыны, пазіраючы час ад часу на гадзіннікі, нерваваліся: баяліся, што спозняцца на прагляд па тэлевізары свайго любімага, як яны зазначылі, шматсерыйнага фільма "Дзяўчына па імені Лёс". На маё пытанне, што ў вёдрах, настаўніцы адказалі:

— Клюквы набрали. Целый день не разгибались.

— А можа, журавін? — перапытаў я. — Праўда, хораша гучыць гэтае слова? У ім чуецца нешта ад птушак-жураваў.

Адна з жанчын абыякава адказала:

— А какая разница? Мы привыкли называть эту ягоду клюквой.

Каб жа толькі гэтыя дзве, чыё дзяцінства прайшло ў вёсцы, як у большасці сённяшніх гарадскіх пенсіянераў, адцураліся матчынай мовы.

Стаяў неяк на прыпынку прыгараднага аўтобуса ў "глыбіннай" вёсцы. Падышла бабуля гадоў за семдзесят з напакаванай, важкай сумкай. Разгаварыліся. Яна паведала, што гасцявала у роднай сястры, а цяпер вяртаецца ў горад, калісьці ў гэтай вёсцы працавала настаўніцай, а перад выхадам на пенсію — у гарадской школе. Яе праводзіла дзяўчынка гадоў дзесяці, пляменніца. Справа была ў канцы жніўня, і нечакана ад густых шатаў таполяў у блакіце неба закружылася чарада буслоў.

— Жанночка, смотри — аисты улетают в вырей! — усклікнула бабуля.

— Не аісты, а буслы, — адказала дзяўчынка.

— Нет, аисты! — стаяла на сваім былая настаўніца.

Я не ўцярпеў і ўставіў, як кажуць, свае тры грошы ў іх спрэчку. Заўважыў бабулі, што і сёння, калі і вёска спрэс загаварыла на "трасянцы", нават малаадукаваны селянін, убачыўшы вясной у небе гэту птушку, усклікне: "Вось і бусел прыляцеў". Жанчына ў адказ панесла пра непазбежнае, на яе думку, зліццё дзвюх моў у адну, што гэты працэс трэба усяляк падтрымліваць. Потым, распаліўшыся да чырвані на твары, стала клясці Гарбачова і Шушкевіча, якія, маўляў, "развалили СССР"...

Ці не ў гэтым манкуртызме інтэлігенцыі старэйшага пакалення, у яе адносінах да роднай мовы з пазіцый абывацеля ("а какая разница?") і ёсць наша першабытная беднасць на культурныя здабыткі? І кожная такая "клюква" нібы напамінак, што ў сваёй халуйскай арыентацыі на "старэйшага брата" мы з яго боку ўспрымаемся як халопы. Вярнуць сёння забытыя большасцю гараджан і нават вяскоўцаў нашы слоўныя "залацінкі" — не простая задача, бо кожная "клюква" агучваецца ў сем'ях бабулямі, матулямі, перадаецца дзецям, унукам, а яшчэ па радыё, тэлебачанні — чыноўнікамі ўсіх рангаў, нават тымі, што працуюць на ніве культуры.

●

Надвячоркам у нядзельку іду па вясковай вуліцы, што выцягнулася на добрых паўтара кіламетра. Абапал праз кожны чацвёрты ці пяты дом на лаўках сядзяць купкамі мужчыны, жанчыны — асобна, болей людзі пенсійнага ўзросту. Вядуць свае будзённыя размовы. Вітаюся з кожнай купкай даўнім, не забытым з дзяцінства "дабрыдзенем". У вёсцы і сёння прынята вітацца на вуліцы пры сустрэчы нават з незнаёмым чалавекам. Мне дружна адказваюць "Здрастуйце". І старыя, і маладыя, і нават падлеткі. Нарэшце ў канцы вуліцы сустракаю маладжавую жанчыну ў гумавых ботах і рабочым адзенні і на маё "Добры дзень" яна адказвае: "Добрага здароўечка". Ажно зашчымела ў грудзях ад гэтага забытага сёння з пакон веку ідучага дабражадання. Чаму ж яно — выцеснена трасяначным "Здрастуйце"?

"ЛіМ"

●

Вечар адпачынку ў пансіянаце для ветэранаў вайны і працы "Мікалаеўшчына", што на Стаўбцоўшчыне. Пасля абрыдлых усім "вольных" танцаў пад магнітафон культмасавічка, маладжавая і энергічная жанчына, прапанавала ўсім разам праспяваць беларускую народную песню. У зале было чалавек шэсцьдзесят, пераважна жанчын ва ўзросце, але яшчэ ў добрай, як кажуць, форме, памаладзелых у сваіх святочных строях і даволі актыўных у танцах. На прапанову масавіку яны адказалі маўчаннем — нібы і не чулі. Потым нехта з жанчын усё ж зацягнуў: "Ох, кто-то с горочки спустился...", чалавек дзесяць ці болей падхапілі і сяк-так спелі. Культмасавічка зноў прапанавала праспяваць беларускую песню, і яе зноў ніхто не падтрымаў. Аказалася — і не маглі падтрымаць. Сярод гэтых жанчын не было ніводнай вясковай жыхаркі. Усе яны прыехалі сюды з раённых цэнтраў Міншчыны, у сельскіх жыхароў увосень — работ восем, яму не да адпачынку. А менавіта ж у райцэнтрах найбольшы працэнт абывацеляў, у якіх, як пісаў нядаўна у "ЛіМе" Леанід Лыч, найбольш хліпенькая нацыянальная самасвядомасць, і менавіта там найбольш зрусіфікаваная інтэлігенцыя.

**Міхась ТЫЧЫНА**

# "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..."

Менавіта гэтыя словы з'яўляюцца дэвізам бюлетэня-газеты "Маланка", якая выдаецца Іркуцкім таварыствам Беларускай культуры імя Яна Чэрскага.

Добра вядома, што яшчэ ў XVI-XVII стагоддзях за Уралам пачалі з'яўляцца беларусы, а калі быць больш дакладнымі — жыхары Вялікага Княства Літоўскага. Напачатку як ваеннапалонныя. Потым былі высланыя "палітычныя" — удзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху, паўстанняў. Канец XIX стагоддзя, азнаменаваны сталыпінскімі рэформамі, пашырыў беларускія суполкі Сібіры. Беззямельныя беларускія сяляне шукалі лепшай долі. Першая сусветная вайна таксама "дапамагла" павялічыць колькасць беларусаў за Уралам. Далей, як мы памятаем, пайшло раскулачванне, насталі гады сталінскіх рэпрэсій. Вялікая Айчынная вайна была апошнім "вялікім перасяленнем" беларусаў за Урал. Такім чынам, сёння беларускі сібірак, альбо сібірскі беларус, — гэта не выключная з'ява, а, хутчэй, заканамернасць.

Напрыканцы 80-х гадоў сувязь з беларусамі Сібіры была страчана. Аднак 90-я надалі ўпэўненасць у тым, што гэта з'ява выпадковая. У гэтыя гады адбываецца шмат сумесных мерапрыемстваў: сходы беларусаў блізкага замежжа, з'езды беларусаў свету. Дзе ж у Сібіры ёсць беларусы зараз? Найбольш вядомая суполка ў Новасібірску. Тут ладзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя Беларусі, беларускім святам, ды і ўвогуле беларускасці, адбываюцца з'езды, сходы, канферэнцыі і г.д.

І вось прыклад навасібірцаў падхапілі беларусы Іркуцка, стварыўшы таварыства імя Яна Чэрскага. Дзейнасць яго не настолькі актыўная, як у Навасібірску, аднак і не малая. Актывісты таварыства разам са студэнтамі, настаўнікамі школ ладзяць розныя беларускія народныя святы: "Гуканне вясны", "Каляды", "Купалле". На базе педагагічнага каледжа створаны харэаграфічны ансамбль "Пралескі". Сёлета створаны ансамбль беларускай песні. Літаратурная сувязь Іркуцка з Беларуссю даволі моцная: у газеце "Маланка" часта друкуюцца матэрыялы беларускіх аўтараў, журналістаў, якія ў асноўным прысвечаны гістарычнаму мінуламу Беларусі.

Цікава, што да справы сібірскага "беларускага адраджэння" актыўна далучаецца моладзь. Прычым, з вялікім захапленнем. Напэўна, большая частка мерапрыемстваў і разлічана на моладзь. Шмат гастралююць па вобласці дзіцячыя калектывы. Гэтаму дапамагае не толькі беларуская суполка, але і Цэнтр народнай творчасці горада Іркуцка. Нават мяркуецца арганізаваць гарадскі дзіцячы фальклорны фестываль "Песенная Ангара".

Прыемна, што на такой адлегласці ад Бацькаўшчыны людзі памятаюць свае карані...

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**

ЛіМ Літаратура і мастацтва

# Асколкі памяці

## Мікіта

Жыў некалі ў нашай вёсцы Мікіта. Чалавек як чалавек. Не надта каб і гаспадар, але і не гультаіна-зломак. Адно — сам сабе наўме. Памятаюць яго па двух выпадках.

Прыехаў ён неяк у раённы гарадок, зайшоў у краму. Доўга прыглядваўся да тавараў, а потым, паказваючы жоўтым абкураным пальцам на паліцу, папрасіў прадаўшчыцу:

— Пакажы мне, галубка, вунь тыя штаны.

Штаны картовыя, моцныя. Пагладжваючы шурпатай далонню па калашыне, Мікіта задаволена гаворыць:

— Вось такія мне і трэба.

— Дык што ж? Плаціце і забірайце, — адказвае прадаўшчыца.

— Ну, вядома ж, не дарэмна, — пагаджаецца Мікіта і падае прадаўшчыцы "Працоўную кніжку калгасніка", у якую брыгадзір штотыдзень запісваў яго працадні.

— Ты што, дзядзька, здзекуешся?! — скрывіла рот прадаўшчыца. — Грошы давай!

— А мне, даражэнькая, грашыма не плацяць, толькі працаднямі, — спакойна гаворыць Мікіта, пачэсваючы пяцярнёй рэдкую сівую шчэць на барадзе.

Прадаўшчыца са злосцю схапіла штаны і кінула на паліцу:

— Тэпай, дзядзька, адсюль па-добраму, а то я міліцыю пазаву, не аглянешся, як на Салаўкі загрыміш!

Быў і больш страшны выпадак у тым жа райцэнтры. Разглядаючы помнік Сталіну, пафарбаваны ў цёмны колер, Мікіта сам з сабой загаварыў:

— Во, нас счарніў і сам счарнеў...

— Уцякай, дзядзька, пакуль не позна, — шапнула яму жанчына, якая выпадкова пачула тыя словы.

Па тым часе мог чалавек аказацца не толькі на Салаўках, але і пад расстрэл трапіць...

Лёс збавіў Мікіту ад гэтага. Памёр ён у сваёй хаце на другім годзе вайны. Суседзі збудавалі яму дамавіну з дошак ад разламанай калгаснай аборы і пахавалі на пясчаным узлобку пад соснамі, дзе знаходзяць вечны спачын нашы вяскоўцы і сёння.

## Дзядзька Арцём

Дзядзька Арцём, хоць і не вучыўся грамаце, але любіў паразважаць аб матэрыях, далёкіх ад вясковых спраў. Хаваючы ў пракураных вусах хітрую ўсмешку, ён аднойчы запытаўся ў мяне:

— Вось ты чалавек вучоны, скажы мне, чаму гэта Ленін хадзіў у чаравіках, а Сталін у ботах?

У яго, відаць, была нейкая свая версія адказу на гэтае пытанне, але выказаць яе не асмельваўся.

Не заўсёды дзядзька пагаджаўся з довадамі сваіх апанентаў. Памятаю, завялі мы неяк гутарку пра поры года, пра іх змену. Калі я нагадаў, што зямля круціцца вакол сонца, ён паглядзеў на мяне, як на блазна:

— Дзе б ты быў, каб яна круцанулася!..

У той жа час дзядзька Арцём быў чалавекам дасціпным — трапна жартаваў, умеў павесяліцца. Толькі аднойчы я бачыў яго ў слязах. Было гэта на вяселлі, калі ён выдаваў замуж дачку.

— Гэта ж трэба, — выціраючы рукой слёзы, скардзіўся дзядзька, — васемнаццаць гадоў карміў яе, адзяваў, а цяпер во аддай чорту лысаму ні за што!..

## Пад чыю дудку?

У першыя пасляваенныя гады нават у абласных газетах не хапала журналістаў. Што ўжо гаварыць пра раённыя? На рэдактарскі пост нярэдка траплялі выпадковыя людзі, далёкія ад газетнай справы.

У адным з раёнаў Піншчыны рэдактарам стаў чалавек толькі таму, што меў цягу да малявання. Калі ўлічыць тое, што ўвесь творчы калектыў рэдакцыі складаўся з рэдактара і сакратара, то можна ўявіць, якім было выданне.

Вось некалькі "пэрлаў" з тае двухпалоснай газеткі. Пад перадавым артыкулам — заметка "Зайцы ў садзе": "Нядаўна група зайцоў наведала сад калгаса "Камунар". Распаясаўшыеся жывёліны аб'елі ўсе маладыя дрэўцы. Лепш бы яны аб'елі ногі старшыні калгаса Старыкава". Скандальная хроніка змяшчалася пад рубрыкай "З біноклем па райцэнтры": "Пазаўчора намеснік райупаўмінзага таварыш Ваўчок, напіўшыся п'яным, ударыў па мордзе сакратара райвыканкома таварыша Пятрэню". Тасаўскі міжнародны агляд не змясціўся цалкам на апошняй старонцы, а скараціць яго рэдактар пабаяўся. Таму даў прыпіску: "Заканчэнне агляду чытайце на першай старонцы". А да ўсяго — слабае веданне беларускай мовы: замест "бальніца" — "хваробніца", "балбатун" — "баўтун" і т. п.

Усё гэта не вельмі турбавала партыйных кіраўнікоў раёна. Разгневаліся яны толькі тады, калі рэдактар асмеліўся пакрытыкаваць гандлёвае забеспячэнне людзей: "Чарга за хлебам працягнулася праз усю Пралетарскую вуліцу, выйшла на Ленінскую, загнулася на Камсамольскай..." Тэрмінова было склікана бюро райкома партыі.

— Вы разумееце, пад чыю дудку скача рэдактар?! — крычаў начальнік раённага аддзела дзяржбяспекі.

— Такая крытыка — знаходка для нашых класавых ворагаў!

Усе члены бюро пагадзіліся з такой ацэнкай. Рэдактар пасля бюро ў рэдакцыю не вярнуўся...

## Падрыхтаваліся...

Бюро райкома партыі разглядае пытанне падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Кіраўнікі гаспадарчых арганізацый па чарзе расказваюць аб праведзенай рабоце ў калектывах: колькі прачытана лекцый, як наладжана наглядная агітацыя. Чарга дайшла да дырэктара раённай канторы "Заготзбожжа" Фінкільштэйна — ужо даволі старога, аблыселага чалавека.

— Чым вы нас абрадуеце, Абрам Львовіч? Як у вашым калектыве ідзе падрыхтоўка да выбараў? — пытаецца першы сакратар райкома.

— Харашо ідзе падрыхтоўка... Мы ўжэ павесілі всех важдзей...

Хтосьці з членаў бюро не вытрымаў — чмыхнуў носам. Збянтэжаны сакратар райкома змяніўся з твару.

На выручку прыйшоў загадчык аддзела прапаганды:

— Таварыш Фінкільштэйн мае на ўвазе, што ў іх чырвоным кутку вывешаны партрэты членаў палітбюро ЦК.

## Паліглот

Запаўняючы анкету, ён доўга моршчыў лоб, задумваўся: хацелася, каб у таго, хто будзе чытаць яе, склалася найлепшае ўражанне. Ад гэтага залежала далейшае прасоўванне па службовай лесвіцы. У графе "Якой замежнай мовай валодаеце?" напісаў: нямецкай, хаця са школьных гадоў у памяці затрымаліся толькі два словы — "гут" і "шляфен", ды яшчэ з вайны засела ў галаве "Гітлер капут".

## "Вечны агонь"

"Вечны агонь" у нашым гарадку запальвалі толькі на свята Перамогі — ля помніка загінуўшым воінам. Рабілася гэта пад строгім наглядам ідэалагічнага кіраўніка.

Аднойчы ж выйшла замінка: ці то запалкі адсырэлі, ці наогул забыўся пра іх той, хто павінен быў запальваць? Галоўны кіраўнік сурова глянуў на "ідэалагічнага":

— Што там у вас?! Я ўжо выступаць павінен, а вечны агонь яшчэ не гарыць!

## Родзічы за мяжой

Сяло Моталь — на правым беразе Ясельды, а на супрацьлеглым — Тышкавічы. Здаўна павялося, што суседзі пацвельваюць адзін з аднаго. Ухмыляючыся, маталянец распавядае, як у час апошняга перапісу насельніцтва тышкавіцкі селянін адказваў на пытанні перапісчыка:

— Ваша нацыянальнасць?

— Тышкавец.

— За граніцай ёсць родзічы?

— Ёсць. Сястра ў Моталі замужам.

## Не стрымаўся

Выдатны даследчык беларускай літаратуры, таленавіты пісьменнік і педагог Уладзімір Андрэевіч Калеснік быў вельмі тактоўным чалавекам. Ён цярпліва выслухоўваў сваіх апанентаў, нікому не навязваў уласнай думкі. Але, як чалавек улюбёны ў літаратуру, не мог цярпець здзеку з яе.

Былыя студэнты Брэсцкага педінстытута расказвалі пра такі выпадак. Аднойчы Уладзімір Андрэевіч мужна выслухаў даволі блытаны адказ расфуфыранай студэнткі на асноўнае пытанне: задаў дадатковае:

— Хто яшчэ з беларускіх пісьменнікаў друкаваўся ў "Нашай Ніве"?

Студэнтка паструніла вочы, навастрыла вушы, чакаючы падказкі. Хтосьці ціхенька шапнуў: "Ядвігін Ш."

— А-а!.. Успомніла! — абрадавалася студэнтка. — У "Нашай ніве" друкавала свае творы Ядвіга Ша.

І тут дабрэйшы Уладзімір Андрэевіч не стрымаўся:

— Дуня ты Марцінкевіч!..

## Як рубцы на сэрцы

Цёплы восеньскі дзянёк. У раённым гарадку — "Свята кветак". Людзі сабраліся на цэнтральнай плошчы, дзе кветкаводы-аматары выставілі на паказ свае дасягненні. Ружы, гладыёлусы, хрызантэмы, сальвіі, вяргіні... Сапраўднае буйства красак! На століках — па-майстэрску скампанаваныя з вырашчаных і палявых кветак кампазіцыі. Кожная мае сваю назву. А ў назвах тых, дайце веры, — напамін аб нашым трагічным лёсе. Яны — як рубцы на сэрцы: "Званы Хатыні", "Вецер Чарнобыля", "Адзінота"...

## Няўжо мы і сёння такія?

Вычытаў у Варлама Шаламава: "На Колыме у меня был хороший друг... Кузнец лагерный. Я у него работал молотобойцем. Он мне рассказал белорусскую притчу о том, как три пана — еще при Николае, — пороли три дня и три ночи без отдыха белорусского мужика-бедолагу. Мужик плакал и кричал: "А как же я не евши".

Божа літасцівы, няўжо мы і сёння такія?

**Аляксей КАЎКО**

*г. Іванава*

Ужо надыйшлі першыя ахвяраваньні на заканчэньне будовы Беларускага музэю ў Гайнаўцы.

1. К. і Я. Вініцкія $30.oo
2. Л. Міхель $30.oo
3. В. Стус $30.oo
4. Д. Горна-Арлоў $25.oo
5. А. Баўчыт $20.oo
6. А. і Браніслаў Даніловічы $100.oo
7. Л. Літаровіч (у памяць мужа Леаніда) $100.oo
8. Славік Шабовіч $50.oo

Чакаем далейшых ахвяраваньняў...



## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Сацыялагічная служба "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН 600 мінчанам ва ўзросце ад 18 гадоў і старэй прапанавала пытанне: "Як асабіста вы ставіцеся да магчымага аб'яднання Беларусі з Расіяй?" Вынікі наступныя: 31% апытаных не падтрымлівае аб'яднанне Беларусі з Расіяй; 32% падтрымліваюць часткова, а цалкам — толькі 13% апытаных. Кожны чацвёрты рэспандэнт (25%) не змог адказаць на прапанаванае пытанне. На пытанне "Якое аб'яднанне, у якім выглядзе вы падтрымліваеце або хацелі б бачыць?" 36% апытаных адказалі, што падтрымліваюць "эканамічнае супрацоўніцтва". За поўнае зліццё, "як было пры СССР" выступілі толькі 9% апытаных мінчан. Нямнога. Але ўсё ж думаеш, што гэтыя людзі, якія падтрымліваюць аб'яднанне Беларусі з Расіяй у адну дзяржаву, ці то зусім не глядзяць тэлебачанне пра тое, як жывуць нашы суседзі, ці для іх чым будзе горай нам усім, тым будзе лепш?

Дарагія Чытачы! Ці пераслалі Вы ў гэтым годзе ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты? Набліжающца Калядныя сьвяты — і мы чакаем Вашага сьвяточнага падарунку!.. Дзякуем за ўвагу.